# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 49 (2295) 3 снежня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).


*КАМУ СЛУЖЫЦЬ НАШ БІЗНЕС?*

## БАГАТЫ ЧАЛАВЕК У БЕДНАЙ КРАІНЕ

Неяк няёмка пачынаць артыкул з пытання чытачу. Але ж помніце, якую песеньку пеў у дзяцінстве правадыр сусветнага пралетарыяту? Згодна са сведчаннямі відавочцаў, любімая песня Валодзі Ульянава гучала так:

**Богачу, дураку,**
**и с казной не спится,**
**Бедняк гол, как сокол,—**
**поет, веселится.**

Наступны куплет цытаваўся некалькі радзей, хаця, несумненна, таксама прадстаўляе цікавасць для раскрыцця асобы «самага чалавечнага з людзей» і наводзіць на пэўныя разважанні, якія маюць прамыя адносіны да тэмы нашай гаворкі і гісторыі краіны:

**Ни кола, ни двора,**
**зипун — весь пожиток,**
**Эх, живи — не тужи,**
**умрешь — не убыток...**

Аднак ні ў дзяцінстве, ні пазней вялікі тэарэтык і, на жаль, практык не задаў сабе пытання — хто ж з іх дурнейшы: багач, які беражэ сваю казну, ці жабрак, які, седзячы раздзетым і разутым, замест таго, каб працаваць, чамусьці весяліцца? З чаго б гэта? Не хачу перабольшваць ролі гэтай песенькі ў нашай гісторыі, але тое, што пад кіраўніцтвам яе выканаўцы некалі ў народа забралі апошняе, а каб не было крыўдна, узнялі жабрацтва ў ранг дабрачыннасці, — відавочна. З дзяцінства нам было вядома, што вышэйшая праява дабрыні і высакароднасці — падзяліцца апошнім кавалкам хлеба (быццам, калі кавалак перадапошні, дык ён для галоднага будзе менш каштоўным). Мы таксама ведалі, што толькі бядняк можа па-сапраўднаму зразумець бедняка, а сыты — галоднаму не спагадае... Вось так яна і выглядала, філасофія пралетарыяту, які перамог розум. Ну а ў тым, што нам нечага губляць, акрамя сваіх ланцугоў, мы пераканаліся на ўласным вопыце.

(Заканчэнне на 3-й стар.).



Валерый МАЦУЛЕВІЧ.

Фота Віктара СТАВЕРА.



**Ці можна трынаццацігадовую беларускую піяністку Ганну Шыбаеву лічыць узыходзячай зоркай! Спадзяёмся, што так. У яе ўжо ёсць ганаровыя адзнакі, прызы, дыпломы. Яна зведала поспех і прызнанне слухачоў.**

**У мінулым годзе «Голас Радзімы» пісаў пра Аню Шыбаеву, калі яна вярнулася з Італіі ў званні лаўрэата. Быў паспяховым для дзяўчынкі і 1992 год. Вясной на Рэспубліканскім конкурсе ў горадзе Лідзе яна заняла другое месца, з поспехам выканаўшы праграму, якая складалася з твораў Баха, Гайдна, Шуберта, Машкоўскага і Глебава.**

**«Перад дзяўчынкай адкрыты дзверы ўсіх музычных вышэйшых навучальных устаноў свету», — сказаў пра Ганну Шыбаеву прафесар Карл Кемерлінк, уручаючы ёй дыплом на IX Міжнародным конкурсе імя І. С. Баха ў Лейпцыгу, дзе яна на роўных умовах змагалася з дарослымі піяністамі з розных краін свету. Пасля поспеху ў Германіі ў Зале камернай музыкі ў Мінску адбыўся сольны канцэрт маладой піяністкі, у якім яна выконвала творы Баха і Хіндэміта. Слухачы і знаўцы адзначылі музыкальнасць, тэхнічнае майстэрства, сталасць інтэрпрэтацыі.**

**Г. Шыбаева вучыцца ў сёмым класе Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі. Разам са сваім педагогам В. Мінянковым працуе над канцэртам до-мінор для фартэп'яна з аркестрам Бетховена, рыхтуе праграму для Калядных канцэртаў у Маскве.**

**НА ЗДЫМКУ: Ганна ШЫБАЕВА.**

**М. МІЦУЛЬ.**

*ПАЛЕМІКА*

## НЕПАХІСНЫ АХОЎНІК ПРЫНЦЫПАЎ БАЛЬШАВІЦКАЙ ПАРТЫЙНАСЦІ,

### або ЗА ШТО ВУЧОНЫ АРКАДЗЬ ЖУРАЎСКІ ЗАГНЕВАЎСЯ НА ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Наш вядомы лінгвіст Аркадзь Жураўскі апошнім часам узяўся за гістарычную адукацыю грамадства. У бальшавіцкім духу павёў ён гаворку пра «Пагоню» і бела-чырвона-белы сцяг. У артыкуле «Гісторыя, якая ўмясцілася ў тры гады» («Навіны Беларускай акадэміі», 1992, № 26) ён вырашыў няшчадна выкрыць ідэйную заганнасць маіх вывадаў і меркаванняў адносна беларускіх дзяржаўных сімвалаў.

Перш чым расправіцца са мной, А. Жураўскі пашырае разумовыя гарызонты чытача наступнай фразай: «Сучаснымі беларускімі сродкамі масавай інфармацыі ўсё шырэй распаўсюджваецца перакананне, што толькі ў часы Беларускай Народнай Рэспублікі беларускі народ пазнаў сапраўдную свабоду. З ліку шматлікіх панегірыкаў гэтага рода дастаткова спыніцца на меркаваннях У. Казберука, выказаных ім у артыкуле «Як нам зваць сваю рэспубліку?»

Давядзецца нагадаць А. Жураўскаму, што наконт рэальнага становішча ў БНР пісаў я раней, у артыкуле «Паміж молатам і кавадлам» (ЛіМ, 8 сакавіка 1991 г.): «Будзем шчырымі: якую незалежнасць набыла Беларусь 25 сакавіка 1918 года? Быў створаны ўрад, але ці меў ён уладу? Ці меў адміністрацыю, армію, органы ахоўы парадку? Ці быў ён незалежны ад ваенных і цывільных улад чарговых акупантаў? Як гаварыў у адным са сваіх выступленняў Алесь Гарун, нямецкі шуцман у любы момант можа з'явіцца і разагнаць той высокі сход, які ўсё ж такі выступаў ад імя краіны і народа. З гэтай незалежнасцю не лічыліся ні нямецкія, ні польскія, ні бальшавіцкія ўлады і адміністрацыі. А яны чаргаваліся на нашай зямлі ў залежнасці ад ваеннай сітуацыі, на якую беларускія дзеячы не маглі аказваць ніякага ўплыву. Як і не мелі права голасу ні ў Брэсце, ні ў Версалі, ні ў Рызе».

Ці сказана тут, што «толькі ў часы Беларускай Народнай Рэспублікі беларускі народ пазнаў сапраўдную свабоду»? У артыкуле «Як нам зваць сваю рэспубліку?» гаворка ішла пра палітычныя дэкларацыі і маніфесты. І вельмі не шкодзіла б, каб А. Жураўскі параўнаў палітычныя праграмы БНР (другую і трэцюю Устаўныя граматы) і «Маніхвэст» першага беларускага савецкага ўрада, абнародаваны 1 студзеня 1919 года. А калі самому гэта рабіць няма ахвоты, то хаця б паглядзець, што пра іх пісаў я ў сваім артыкуле.

Праўда, палітычныя праграмы і дэкларацыі як такія А. Жураўскага не надта цікавяць. І таму ён рэзонна, як яму ўяўляецца, заўважае: «Дзейнасць і значэнне ўрада БНР трэба ацэньваць, відавочна, не па тых дэкларацыях і абяцанках, якія ён аб'яўляў у свой час, не з улікам таго, што члены гэтага ўрада думалі або якія сны сніліся ім, а які рэальны ўплыў аказалі яны на лёс і гісторыю Беларусі».

Я нічога не маю супраць. Але спачатку А. Жураўскі хай будзе ласкавы адказаць на пару пытанняў:

1) Каму палітычная праграма БНР косткай у горле стала? Чаму? Хто не дазволіў яе здзейсніць?

2) Якія былі рэальныя вынікі ажыццяўлення «большэвіцкага маніхвэста»?

Усяго толькі месяц праіснавалі Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусь (ССРБ) і той першы беларускі савецкі ўрад. Пісаў я пра яго лёс. Мо-

(Заканчэнне на 4-й стар.).

ДУМКА С. ШУШКЕВІЧА

## БУДЗЕМ ПАМЯРКОЎНЫМІ

Адказваючы на пытанне карэспандэнта агенцтва «Рэйтэр», што датычыцца правядзення рэформ у рэспубліцы, Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч заявіў:

— Я прыхільнік хуткіх і рашучых дзеянняў. Але ў гэты пераходны перыяд, які перажывае цяпер рэспубліка, спешка на шляху да дасягнення поўнай самастойнасці, да плюралізму ў плане форм уласнасці, форм гаспадарання на зямлі і г. д. толькі нашкодзіць. Перш за ўсё неабходна змяніць мысленне вельмі шырокіх мас насельніцтва. Таму наша ўмеранасць у плане дзяржаўных пераўтварэнняў вымушаная.

ПАМЯЦЬ

## СЛУЦКАЕ ПАЎСТАННЕ

Упершыню на Беларусі адзначана гадавіна Слуцкага паўстання. Прадстаўнікі розных грамадскіх рухаў — БНФ, згуртавання «Бацькаўшчына», Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, БЗВ, Нацыянал-дэмакратычнай, Аб'яднана-дэмакратычнай і Сялянскай партый Беларусі ўтварылі аргкамітэт па святкаванні гадавіны Слуцкага паўстання. Дні 27—29 лістапада былі насычаны адметнымі падзеямі. Адбыліся жалобныя набажэнствы ў хрысціянскіх бажніцах усіх канфесій у памяць беларускіх ваяроў, якія загінулі за незалежнасць Бацькаўшчыны. Да дома Эдварда Вайніловіча ў Мінску, у слуцкім доме якога 14—15 лістапада 1920 года адбыўся Першы з'езд Случчыны, быў ускладзены вянок пашаны.

Навуковая канферэнцыя, прысвечаная 72-й гадавіне Слуцкага паўстання, адбылася ў сталічным Доме літаратара. Тут жа была адкрыта выстаўка суполкі «Пагоня», а затым прайшоў урачысты сход і публіцыстычна-мастацкая вечарына.

28 лістапада адбыўся аўтапрабег па маршруце Мінск — Семежава — Слуцк. Пра гэтыя і іншыя падзеі больш падрабязна ў наступным нумары «Голасу Радзімы».

ПАЛІТЫЧНАЯ КУЛЬТУРА

## ЛОБІ ДЛЯ ПАРЛАМЕНТА

Аб рабоце над праектам новай навучальнай установы — Акадэміі парламенцкай культуры — паведаміў Саюз прадпрымальнікаў Беларусі.

Мяркуецца, што гэтая вышэйшая прыватная навучальная ўстановы закрытага тыпу будзе рыхтаваць прафесіянальных лабістаў і эканамістаў. Асобы, якія ўжо маюць журналісцкую, філасофскую, эканамічную ці сацыялагічную адукацыю, змогуць набыць яшчэ адну прафесію — сакратара членаў парламента. Паступленне без экзаменаў, па сістэме тэстаў. Навучанне — платнае.

— Намячаецца стажыроўка студэнтаў Акадэміі ў грамадска-палітычных групоўках і партыях за мяжой. У навучальную ўстанову могуць паступаць таксама і замежныя грамадзяне. Такім чынам, яны атрымаюць прафесійныя веды аб палітычнай сістэме Беларусі, — сказаў прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Уладзімір Карагін.

ЖЫЛЛЁ ДАРАЖЭЕ

## ПЛАЦІМ 1 РУБЕЛЬ 32 КАПЕЙКІ

З 30 лістапада 1992 года на ўсёй тэрыторыі рэспублікі ўстанаўліваецца адзіная стаўка кватэрнай платы за карыстанне грамадзянамі жылымі памяшканнямі ў дамах дзяржаўнага і грамадскага жылых фондаў — 1 рубель 32 капейкі за адзін квадратны метр жылой плошчы, паведаміла служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

У прынятай па данаму пытанню ўрадавай пастанове гэта вымушаная мера тлумачыцца павышэннем аптовых цэн на пастаўляемыя ў Беларусь паліўна-энергетычныя і матэрыяльна-тэхнічныя рэсурсы, што патрабуе павелічэння стаўкі кватэрнай платы больш чым у 75 разоў. Прадугледжаный урадам на лістапад-снежань гэтага года датацыі з бюджэту ў суме 629,4 мільёна рублёў аказалася недастаткова для пакрыцця затрат на ўтрыманне жыллёвага фонду.

АДКРЫТА МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА



У Віцебску адкрыта мемарыяльная дошка народнаму артысту Рэспублікі Беларусь Анатолю ТРУСУ (на здымку). Многія гады іграў акцёр у лепшых спектаклях Беларускага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа.

ФАЛЬШЫВАМАНЕТЧЫКІ

## ЛЕГЕНДА РАЗВЕЯНА

Запэўніванні аб «непадробнасці» разліковых білетаў Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь не пацвярджаюцца жыццём. Фальшываманетчыкі нарэшце асвоілі вытворчасць нашых «звярыных» грошай.

У Магілёве ў Галоўным упраўленні Нацыянальнага банка Беларусі па Магілёўскай вобласці быў выяўлены падроблены разліковы білет вартасцю 100 рублёў. А нядаўна пры пераліку выручкі, якая паступіла з кафэ «Ладдзя» ў Троіцкае аддзяленне Галоўнага ўпраўлення Нацыянальнага банка, была знойдзена падробленая 5-рублёвая купюра.

Такім чынам, легенда аб тым, што беларускія грошы падрабіць нельга, развеялася, бы туман. Следчыя органы вядуць пошук «майстроў».

БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫЧНАЯ ВОСЕНЬ

Ужо многа гадоў запар, калі дрэвы губляюць апошняе лісце і з неба цярушыць мокры халодны дождж ці нават снег, на нашу зямлю прыходзіць «Беларуская музычная восень». Перад гледачамі выступаюць славутыя калектывы, спевакі, музыканты з Беларусі, з блізкага і далёкага замежжа. Незабыўныя сустрэчы з высокім мастацтвам падарыла «Музычная восень» (цяпер называецца Міжнародны фестываль мастацтва) мінчанам і сёлета. Фестываль адкрыў славуты маэстра Святаслаў Рыхтэр, з поспехам прайшоў канцэрт Зураба Саткілавы. У канцэртнай зале філармоніі прагучала сімфонія У. Кандрусевіча «Плач перапёлкі».



У сёлетняга свята ёсць і свае адметныя рысы. Як ні дзіўна (здавалася б, не да сур'ёзнай музыкі ў залішне суровы час), залы не пустуюць. І запаўняюць іх не толькі пажылыя людзі, але і людзі сярэдняга веку, і моладзь. Народ стаміўся ад палітычных баталій, штодзённых чэргаў, нарэшце ад масавай культуры, якая не дае спачыну душы.

Напярэдадні фестывалю падлічваліся выдаткі, якія спатрэбяцца, каб дастойна прыняць удзельнікаў «Восені», і ставілася пытанне, ці па кішэні нам сёння такая раскоша. Свята абыдзецца прыблізна ў 2,5 мільёна рублёў. Грошы падлічыць можна, цяжэй вызначыць страты, якія панясём, забыўшыся пра духоўнасць, адмовіўшыся ад сустрэчы з прыгажосцю, з высокім мастацтвам.

БЕЛАРУСЬ — ЛІТВА

## ДЭЛІМІТАЦЫЯ

У Міністэрстве замежных спраў Беларусі адбылася сустрэча рабочых груп Літвы і Беларусі па пытанні дэлімітацыі дзяржаўнай мяжы.

Беларускую дэлегацыю ўзначаліў старшыня Камітэта геадэзіі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Георгій Таразевіч, літоўскую — дырэктар дзяржаўнай геадэзічнай службы Зянон Куметайціс.

Як паведамілі ў інтэрв'ю карэспандэнту БелаПАНа Г. Таразевіч і З. Куметайціс, практычна 80 працэнтаў лініі праходжання граніцы ўзгоднена на ўзроўні ўрадавых экспертаў. Асаблівыя цяжкасці выклікала вызначэнне мяжы па азёрах. Разгляд астатняй часткі мяжы мае патрэбу ў дадатковых матэрыялах. Чарговая сустрэча намечана на сярэдзіну снежня ў Вільнюсе.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● У гарадскі цэнтр занятасці насельніцтва ў Баранавічах звярнулася каля 6 тысяч беспрацоўных. Уладкаваць на работу ўдалося толькі палову з іх. Афіцыйны статус беспрацоўнага атрымаў 231 чалавек.

● Камісія па забеспячэнню і дзяржаўнаму выкарыстанню дзяржаўнай сімволікі пры Вярхоўным Савеце Беларусі разглядае прадстаўленыя варыянты формы адзення роты ганаровай варты і ваенную сімволіку. Выбраны той, што «нясе малюнак нацыянальнага і гістарычнага мінулага». Вырашана, што замест зоркі галаўны ўбор упрыгожыць «Пагоня».

● Прайшлі першыя рублёвыя таргі ў Мінску. 25 мільёнаў расійскіх безнаяўных грашовых знакаў былі прададзены за разліковыя білеты нацыянальнага банка Беларусі, або «зайцы», як празвалі іх у народзе. «Зайцы» не спраўдзілі надзей на стойкасць і важкасць нашай «валюты» — за 100 рублёў расійскіх давалі 110 беларускіх.

● Урад Беларусі прыняў рашэнне выпусціць першую ўнутраную Дзяржаўную пазыку на суму 490 мільёнаў рублёў.

На думку фінансістаў, умовы і парадак абарачэння аблігацый будуць мець шэраг пераваг. Гэта 25 працэнтаў гадавых, кожная каштоўная папера будзе суправаджацца наборам купонаў — па колькасці гадоў, на працягу якіх пачынаючы з наступнага года будзе дзейнічаць пазыка. Гэта дазволіць уладарам штогод здымаць з іх пэўны даход і заставацца трымальнікамі каштоўнай паперы.

● Ужо 2 800 сем'яў з небяпечнага пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС Нараўлянскага раёна атрымалі пасведчанні аб перасяленні. Больш за 900 з іх будуць жыць у Мінску, 70 сем'яў пераедуць з зоны павышанай радыеактыўнасці ў Брэст, 40 — у Гродна, 50 — у Барысаў.

● З 15 лістапада падаражаў не толькі праезд на гарадскім транспарце: замест 1 рубля білет цяпер каштуе 3 рублі. Амаль што ўдвая ўзняліся цэны на гарэлку. Цяпер паўлітра «Белай Русі», адной з лепшых, каштуе 235 рублёў, «Маскоўскай» — 180, «Пшанічнай» — 190 рублёў.

● У Мінску на 3-м малаказаводзе хутка пачнуць выпускаць амерыканскі вітамінізаваны напітак «Тампіко». Абсталяванне і сыравіна — амерыканскія, рабочыя рукі — нашы. Літровы пакет «Тампіко» будзе каштаваць...120 рублёў.

● Утворана Задзіночанне каталіцкай моладзі Беларусі. Адна з найгалоўнейшых яго задач — адраджэнне каталіцкага касцёла ў рэспубліцы. Сваім дэвізам ЗКМБ абраў: «Для Хрыста, Касцёла і Бацькаўшчыны!»

● Беларусь наведаў амерыканскі астранаўт Джон Фабіан. Візіт яго насіў прыватны характар. Джон Фабіан сустрэўся з кіраўніцтвам Інстытута фізікі Акадэміі навук Беларусі. Прэзідэнт амерыканскай асацыяцыі астранаўтаў быў прыняты ў Савеце Міністраў рэспублікі.

● У выніку падзелу чыгуначнай гаспадаркі былога Саюза Беларусь атрымала сваю долю — 36 098 вагонаў. Гэта складае 2,39 працэнта. Ад гэтага часу нашы вагоны будуць мець надпіс «21БЧ», што азначае кодавы нумар і словы «Беларуская чыгунка».

● За межамі Беларусі цяпер праходзяць службу 38 832 афіцэры-беларусы. Асноўная іх колькасць знаходзіцца на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі —22 294, на Украіне служаць —4 077 беларускіх афіцэраў, у Казахстане —1 744, ва Узбекістане —593, у Туркменіі —125, Таджыкістане —23, Кыргызстане —17, Латвіі —317, Літве —169, Эстоніі —121, Грузіі —128, Азербайджане —568, Арменіі —226, Малдове —41. Яшчэ 8 721 чалавек знаходзіцца ў групах войск за межамі былога СССР.

● У Гродне адкрыты нядзельны беларускі гуманітарны ліцэй. Ён працуе пад эгідай Беларускага гуманітарна-адукацыйнага культурнага цэнтра. Каля 80 школьнікаў старшых класаў штонядзелю вывучаюць тут краязнаўства, гісторыю культуры, літаратуру, этнаграфію, фалькларыстыку, атрымліваюць іншыя веды пра свой край.

Другі такі ліцэй працуе ў Гомелі.

*КАМУ СЛУЖЫЦЬ НАШ БІЗНЕС?*

# БАГАТЫ ЧАЛАВЕК У БЕДНАЙ КРАІНЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Але час незваротна змяніўся, і сярод нас сталі з'яўляцца людзі, якіх ва ўсім свеце называюць бізнесменамі. Што мы ведаем пра іх? Па-першае, што ўсе яны багатыя, па-другое, што багатыя таксама плачуць, але гэта — толькі ў мексіканскіх серыялах, а ў нас — усе яны эксплуататары. Я не буду даказваць адваротнае. Пройдзе час, спадзе непазбежная ў любой новай справе пена. А я хачу зараз прапанаваць інтэрв'ю з прадстаўніком беларускага бізнесу, генеральным дырэктарам гасразліковага навукова-вытворча-творчага малога прадпрыемства ВІТТ **Валерыем МАЦУЛЕВІЧАМ.**

**— Беларускі бізнес яшчэ зусім малады. Хто тыя людзі, якія першымі адважыліся распачаць сваю справу ў нашых вельмі неспрыяльных умовах?**

— Як правіла, гэта людзі, якія, працуючы ў дзяржаўных установах ці прадпрыемствах, адчувалі, што яны здольныя на значна большае, чым тое, што ім даводзілася рабіць. І вось вам заканамернасць: тыя, хто змог праявіць сябе на дзяржаўнай працы, і да вырашэння праблем новага бізнесу падыходзяць нетрывіяльнымі і цікавымі шляхамі. Менавіта яны ствараюць надзейныя і доўгатэрміновыя вытворчасці, якія абяцаюць новыя працоўныя месцы і закладваюць асновы будучай эканомікі.

**— Дарэчы, кім вы раней працавалі?**

— Дзяржаўную працу я скончыў намеснікам дырэктара навукова-даследчага інстытута аўтаматызаваных сістэм планавання і кіравання пры Дзяржплане СССР і нейкі час выконваў абавязкі дырэктара гэтага інстытута... Ведаеце, я доўга не мог стаць загадчыкам аддзела таму, што не быў членам партыі. У дзяржаўных структурах было і ёсць шмат бессэнсоўных перашкод і залежнасць ад людзей і абставін, якія не маюць канкрэтных адносін да справы. Зараз жа ўсё залежыць толькі ад мяне самога, ад маіх здольнасцей, умення, таленту.

**— Атрымліваецца вельмі прывабная карціна сапраўднай справы для сапраўдных мужчын. Так і хочацца ўсклікнуць: «Хутчэй у вялікі бізнес!»**

— Сёння жыццё паставіла ў вельмі жорсткія ўмовы ўсіх нашых прадпрымальнікаў. Ідзе натуральны адбор, і выжыве той, хто мацнейшы, хто ўжо змог знайсці сваё месца. Я думаю, што з'яўленне нейкіх буйных новых структур ці фірм зараз нерэальнае, таму што выжыць ва ўмовах нашай гіперінфляцыі і сённяшняй падатковай палітыкі амаль што немагчыма.

**— Вашы адносіны да палітыкаў і палітыкі?**

— Я лічу, што кіраваць дзяржавай павінны багатыя людзі. Калі чалавек мае забяспечаны тыл, яму не трэба змагацца за дачы, кватэры, пайкі, — ён пайшоў і набыў ці проста даўным-даўно мае гэта. І ён не баіцца, што калі скончыцца тэрмін яго знаходжання ва ўладзе, ён адразу страціць нейкія прывілеі. Усё гэта фарміруе зусім іншую этыку паводзін. Непрыстойным лічыцца тое, што мы зараз успрымаем, як натуральнае, — выкарыстанне службовага становішча для атрымання матэрыяльных выгод. І ўсе разумеюць: сённяшняму дэпутату трэба забяспечыць сваю будучыню, пакуль ён ва ўладзе. Таму і робяць нашы палітыкі з дзяржавы кармушку...

**— Чым займаецца ваша фірма?**

— Наша фірма — гэта акцыянернае таварыства, навукова-вытворча-творчая кампанія. Асноўны від яе дзейнасці — вытворчасць мастацкіх, мастацка-публіцыстычных і дакументальных фільмаў. На сённяшні дзень мы ўжо знялі чатыры мастацкія фільмы. У вытворчасці знаходзіцца фільм, які мы робім сумесна з французскімі кінематаграфістамі, а італьянцы прапанавалі супрацоўніцтва над фільмам па аповесці Ерафеева «Маскоўскія прыгажуні». Працуем над мастацка - публіцыстычным фільмам «Шпіёны ад Бога», прысвечаным савецкай разведцы, пра яе ж невядомыя бакі мы збіраемся зняць 17-серыйны мастацка-публіцыстычны фільм. Але кінавытворчасць — гэта толькі бачная частка айсберга...

**— Дык што ж пад вадой?**

— Вытворчасць мэблі, посуду, дрэваапрацоўка, навукаёмістая вытворчасць — мы вырабляем галаграфічныя стужкі на аснове лазернай тэхналогіі: робім інвестыцыі ў беларускую навуку. Кіраўніцтва ўсім гэтым ажыццяўляецца з аднаго цэнтра, які адначасова выконвае ролю банка.

**— Але ж, наколькі я зразумела, асноўная сфера вашай дзейнасці — культура. Чаму так?**

— Я хачу, каб заўтра мой сын не баяўся выйсці на вуліцу. Я хачу, каб ён ведаў, што ён — беларус, і ганарыўся гэтым. Чалавек без каранёў, чалавек, які не ведае і не асэнсоўвае сваю нацыянальную культуру як частку агульначалавечай культуры з уласнай паліцы, ніколі не будзе адчуваць прыналежнасці да сваёй нацыі. Можна добра ведаць сусветную культуру і гісторыю, быць вельмі адукаваным і размаўляць на дзесяці мовах. Але калі пры гэтым ты не будзеш ведаць культуры, гісторыі і мовы зямлі, на якой жывеш, чаго будуць вартыя ўсе твае веды, ды і ты сам? А бізнесмен чагосьці варты толькі тады, калі вышэй інтарэсаў сваёй кішэні ставіць інтарэсы сваёй краіны. Я лічу, што наша праславутае «пакланенне перад Захадам» ідзе ад адсутнасці ўласнай і няведання нацыянальнай культуры. Маўляў, што цікавага можа быць у гэтай Беларусі? А між іншым, заходнія бізнесмены знаходзяць тут нямала прывабнага і карыснага. Мы зараз старанна вучым англійскую мову, каб размаўляць з замежнымі партнёрамі. Але калі іх цікавіць Беларусь, калі яны збіраюцца развіваць тут свой бізнес, хай яны вучаць нашу мову, хай паважаюць яе і нас.

Але нас ніхто не будзе паважаць, пакуль мы самі не навучымся ставіцца да сябе з павагай. Я быў на адкрыцці конкурсу маладых выканаўцаў «Ялта-92». Ніводнага канкурсанта з Беларусі. Мне соpамна было. Што, на ўсю краіну няма ніводнага маладога спевака, які быў бы варты там выступіць? Мы плануем арганізоўваць міжнародныя конкурсы, праводзіць фестывалі, запрашаць гасцей, каб паказаць ім нашу культуру, заявіць аб ёй ва ўсім свеце. У наступным годзе спаўняецца 400 год з дня смерці Сымона Будная. Наша фірма плануе правесці фестываль, прысвечаны гэтай даце.

**— Вы ўкладваеце грошы толькі ў тыя праекты, якія дадуць хуткую аддачу, ці плануеце сваю дзейнасць на больш аддаленую перспектыву?**

— Для таго каб заможна пражыць мне і маім сябрам, нам хапіла б якога-небудзь камерцыйна-гандлёвага прадпрыемства. З яго дапамогай мы б вырашылі ўсе свае асабістыя фінансавыя праблемы і не мелі б лішніх клопатаў. Сам накірунак нашай дзейнасці—развіццё навукі і культуры сведчыць пра тое, што ўсё, што мы робім, накіравана ў заўтрашні ці паслязаўтрашні дзень.

**— Як адчувае сябе багаты чалавек у беднай краіне?**

— Я думаю, мы пакуль што яшчэ проста не ведаем, што такое багацце. Узровень жыцця самых багатых у нашай краіне ніжэйшы за сярэдні ўзровень жыцця на Захадзе. Самае галоўнае, што даюць грошы, — яны дазваляюць не думаць пра іх. Здымаецца непатрэбны клопат, эканоміцца час... Але якія б грошы ў цябе ні былі, калі ты жывеш у гэтай краіне, нікуды ад яе нягод не схаваешся. Я б на ваша пытанне адказаў трохі інакш. Самае галоўнае багацце, якое я набыў за той час, пакуль займаюся бізнесам, — не грошы. Я пазнаёміўся з вялікай колькасцю вельмі цікавых людзей, якія думаюць таксама, як і я, у нас аднолькавыя погляды, імкненні. Альтэрнатыўны тэатр, дзіцячая оперная студыя, галерэя VITA NOVA, ансамбль «Калегіум мюзікум», акцёры, рэжысёры, музыканты, мастакі, бізнесмены — мы аднадумцы, разумееце! Мне цікава жыць. І гэта я лічу галоўным багаццем, якое можна набыць у нашай жабрацкай краіне.

**— Як вы ставіцеся да таго, што ў апошні час жыццё ў нашай беднай краіне амаль поўнасцю зарыентавана на багатых людзей? Я маю на ўвазе запрашэнні сустрэць Каляды на Багамах ці Сіцыліі, астралагічны прагноз для бізнесменаў, рэкламу тавараў, якіх альбо няма, альбо нельга купіць з-за іх неверагоднай цаны.**

— А тут усё вельмі проста: хто плаціць, той і заказвае музыку. Адна мінута рэкламы на цэнтральным тэлебачанні каштуе 200 000 рублёў. Канешне, заплаціўшы такія грошы, я гэты час патрачу на тое, каб заявіць аб сваёй фірме. А як — гэта ўжо сведчыць аб узроўні культуры нашых бізнесменаў. Вельмі важна знайсці і тут залатую сярэдзіну, як гэта, напрыклад, удалося Расійскай таварнай біржы, якая літаральна выратавала перадачу «Спакойнай ночы, малышы». Зараз задаволены і дзеці, і бацькі і фірма мае пастаянную рэкламу.

**— Ці адчуваеце вы да сябе непрыязнасць ці зайздрасць з боку акружаючых?**

— Так, канешне ж, адчуваю. І хачу сказаць, што і зайздрасць бывае рознай. Аднаго яна падштурхне да таго, каб лепш працаваць і такім чынам палепшыць свой дабрабыт. А другі, убачыўшы, што ты купіў машыну, паб'е шкло і фары, колы праколе. Ён не задумваецца, што я не толькі зарабляю больш за яго, але і працую так, як яму і не снілася. Аргумент адзін — у яго больш, чым у мяне, я хачу столькі ж. Значыць, трэба адабраць і падзяліць. Але ж гэта ўжо было, і што атрымалася, усе мы добра ведаем.

**— Кожны жыве і працуе дзеля нейкай канчатковай мэты. Ці ёсць такая мэта ў вас і якая яна?**

— Канчатковая мэта... вельмі цяжка адразу сфармуляваць. Напэўна, галоўнае — стаць першым. Па-другое — дапамагчы стаць першым сыну. Гэта — таксама мэта, не хачу, каб ён пачынаў з нуля. Мабыць, не мэта, а імкненне — не даць памерці беларускаму кіно. Мы з кінастудыяй пакуль што не можам знайсці агульнай мовы, але я хачу, каб гэта было! Я хачv, каб існаваў «Беларусьфільм», хачу, каб быў Альтэрнатыўны тэатр, «Калегіум мюзікум», дзіцячая оперная студыя, хачу, каб жыла беларуская культура. І паколькі захаванне беларускай культуры — гэта справа, якая хвалюе не толькі мяне, я хацеў бы звярнуцца да нашых замежных суайчыннікаў: давайце працаваць пад лозунгам: «Беларусы ўсіх краін, яднайцеся!» Мы ўдзячныя за тую гуманітарную дапамогу, што паступае да нас, але было б лепш, калі б нас аб'ядноўвалі не бясплатныя падарункі, а агульныя справы. Так, мы разумеем, што нашы сённяшнія законы не дазваляюць вам з поўным даверам ставіцца да нашага супрацоўніцтва. Але ўжо сёння існуюць камерцыйныя структуры, здольныя хутка і эфектыўна вырашаць усе пытанні. Наша фірма прапануе свае паслугі ў арганізацыі некамерцыйнага аб'яднання прадпрымальнікаў беларускай дыяспары за мяжой і нашых бізнесменаў тут. Мы хочам, каб наша рэспубліка, якой зараз вельмі цяжка, знайшла сілы (і сродкі), каб адрадзіць, і захаваць сваю нацыянальную культуру, і стаць гасцінным і ўтульным домам і для тых, хто жыве тут, і для тых, хто некалі апынуўся за яе межамі.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## *ПІСЬМО З ВІЛЬНІ*

**Шаноўнае спадарства!**

**Нас, беларусаў-віленчукоў, вельмі радуе тое, што на старонках беларускай прэсы, у навуковых колах, розных дзяржаўных установах уздымаюцца праблемы, звязаныя з Вільняй. Радуе і тое, што акрамя гандлёва-эканамічных пытанняў урад Беларусі неабыякавы да беларускай музейнай справы, да працэсу стварэння беларускай нацыянальнай школы ў Літве.**

**Думаю, нявартa яшчэ раз напамінаць, што для нас, беларусаў, значыць Вільня. Францішак Скарына, Кастусь Каліноўскі, Янка Купала, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, Іван і Антон Луцкевічы — вось далёка не поўны пералік іменаў, якія ўзнікаюць у нашай памяці, калі мы чуем пра гэты славуты горад. Аднак не кожны наш паважаны зямляк-беларус, наведваючы Вільню, зазірне ў панадворак Базыльянскіх мурoў, дзе размяшчалася некалі Віленская беларуская гімназія, не кожны ведае яе гісторыю. А ў гэтай гімназіі выкладалі А. Станкевіч, М. Гарэцкі, І. Дварчанін, Б. Тарашкевіч, А. Грынкевіч, Р. Шырма і іншыя вядомыя дзеячы беларускай культуры. У ёй вучыліся М. Танк, Н. Арсеннева, М. Васілёк, А. Салагуб, В. Таўлай.**

**Цяпер у Вільні распачата праца па адраджэнню гімназіі. Са спадзяваннем быць пачутымі звяртаемся з просьбай да былых навучэнцаў гімназіі падзяліцца ўспамінамі, да навукоўцаў, настаўнікаў — выказаць думкі па арганізацыі работы аднаўляемай гімназіі, прапановы па стварэнню навучальных праграм.**

**Спадзяёмся, што з вашай дапамогай мы здолеем забяспечыць адпаведны ўзровень навучання нашых дзяцей.**

**Пішыце нам на адрас: 2034, Літва, г. Вільнюс, вул. Студэнту, 39.**

**Педагагічны універсітэт, кафедра беларусістыкі, ПЯТКЕВІЧУ Гендрыку.**

***НОВЫЯ АДРАСЫ АДРАДЖЭННЯ***

# «БАЦЬКАЎШЧЫНА» ІМКНЕЦЦА ДА АБ'ЯДНАННЯ

У сёлетнім жніўні ў Маскве было заснавана аб'яднанне беларускіх суайчыннікаў «Бацькаўшчына». Вядома, залішне рана, усяго праз два месяцы, шукаць вынікі ягонай працы. Але ж і сам факт з'яўлення новай грамадскай адзінкі ў беларускім адраджэнскім руху сталіцы Расіі не можа не цікавіць. Тым больш, што з такімі камандзіроўкамі лепш не марудзіць. Бо пакуль што яшчэ не трэба рупіцца аб візах. Без асаблівых цяжкасцей садзішся ў цягнік у Мінску, праязджаеш «празрыстую» мяжу паміж дзвюма краінамі, цёмную ноч позняй восені і зранку адразу акунаешся ў ашалелае ад беганіны, высокіх цэн, нейкай унутранай напружанасці маскоўскае жыццё.

Гутару са старшынёй аб'яднання Аляксандрам Глодам. Першае, што хачу ўдакладніць, — назва суполкі. У беларускім друку яна гучала як «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». Даволі нечакана, таму што месцам менавіта такога згуртавання хутчэй за ўсё павінна быць Беларусь...

— Мы не носім такі назоў, — тлумачыць Аляксандр Уладзіміравіч, — а выступаем як «Аб'яднанне беларусаў Масквы». Наша мэта — аб'яднаць высілкі беларусаў, што жывуць у Маскве, па адраджэнню, вывучэнню, развіццю і прапагандзе беларускай культуры, наладжванню сувязей беларусаў са сваёй этнічнай радзімай, Рэспублікай Беларусь. А ў горадзе налічваецца не так ужо і мала нашых суродзічаў — 73 тысячы чалавек. Рознымі шляхамі, у розны час пераехалі яны сюды: хто працаваць на будоўлях, хто служыць у арміі, каго пераслалі на нейкую работу з Беларусі. Нельга не ўлічваць, што ў Маскве асядалі лепшыя інтэлектуальныя кадры. Ды і сёння многія нашы землякі займаюць кіруючыя пасады ў розных галінах прамысловасці, культуры і г. д. І ўвогуле, беларусы вызначаюцца сваёй працавітасцю, уменнем, за што і прыдбалі вялікі аўтарытэт. Праўда, у плане нацыянальнай свядомасці яны не такія актыўныя. Маючы гэта на ўвазе, мы і задумалі, калі атрымаецца, у снежні правесці агульны сход беларусаў - масквічоў. І такім чынам, папярэдне правёўшы анкетаванне, заахвоціць іх да супольнасці і еднасці на карысць нацыянальнай культуры.

Як расказаў А. Глод, планы ў аб'яднання вельмі разнастайныя. Напрыклад, у Маскве склалася няпростая сітуацыя з набыццём беларускіх друкаваных выданняў. Па падпісцы газеты прыходзяць надта позна, старэючы ў доўгай дарозе, а ў продажы іх няма. Дарэчы, у будучым годзе стане яшчэ цяжэй... Таму заснавальнікі «Бацькаўшчыны» мяркуюць адкрыць на Беларускім вакзале кіёск беларускай перыёдыкі і кніг. А пастаўку беларускай друкаванай прадукцыі ладзіць праз праваднікоў пасажырскіх цягнікоў. Вечарам яны забіраюць груз у Мінску, а ранкам перадаюць кіёску. Ужо ідзе і пэўная работа над тым, каб адкрыць аддзяленне беларускай літаратуры ў адной з бібліятэк горада. Аб'яднанне лічыць мэтазгодным ажыццяўляць выдавецкую дзейнасць і ўласнымі сіламі выпускаць дайджэст беларускамоўнай прэсы.

— А якой палітычнай арыентацыі прытрымліваюцца сябры «Бацькаўшчыны»?

— Гэта прыватная справа кожнага. Мы не разглядаем палітычную дзейнасць як першарадную. І будзем імкнуцца не займацца ёю.

Ёсць задума дапамагаць землякам з Беларусі, хто пацярпеў ад Чарнобыля, лячэннем альбо медыцынскім абследаваннем у Маскве. Ды і не адно чарнобыльцам. Рэальнай выглядае ідэя ўладкоўваць цяжкасці з пасяленнем у гасцініцах, скарыстоўваючы прыватныя кватэры маскоўскіх беларусаў, дзе дазваляюць умовы.

— Наколькі я зразумеў, адно Масква — рэгіён вашай дзейнасці?

— Не толькі. Мы ўжо пачынаем завязваць сувязі з беларусамі з іншых краёў Расіі і краін Захаду. Будзем рады сустрэцца з суайчыннікамі «бліжняга» і «далёкага» замежжа для вырашэння самых розных пытанняў і ўсталявання кантактаў. Як ні кажыце, Масква па-ранейшаму застаецца цэнтрам шматграннага жыцця СНД і перасячэння ўсемагчымых інтарэсаў. Вазьміце турызм. Наведаць Маскву ці Суздаль праз «Інтурыст» каштуе грошай. А «Бацькаўшчына» змагла б аказаць тыя ж самыя паслугі па значна больш нізкіх цэнах. Так што ласкава запрашаем да супрацоўніцтва.

— Такое супрацоўніцтва, такая перспектыва работы будуць вымагаць немалых фінансавых сродкаў, удзелу многіх людзей, зрэшты, наяўнасці памяшканняў і г. д. Не апошняе значэнне маюць і адносіны з мясцовымі ўладамі?— запытаўся я.

— Стасункі з органамі ўлады ў нас добрыя, ніякіх перашкод нам не чыніцца. Не толькі нам, але і іншым нацыянальным асяродкам. Канешне, мы робім першапачатковыя крокі, далёка не ўсё атрымліваецца так, як хочацца. Усе беларускія суполкі Масквы месцяцца ў адным пакоі, які нам выдзеліла Беларускае паўпрэдства. Маем цяжкасці, ды мы добра ведаем, у якім становішчы знаходзіцца і Беларусь. У рэшце рэшт я сам паходжу са Шчучынскага раёна. Мае бацькі жывуць там, часта адведваю іх... Ніхто, акрамя нас, не будзе вырашаць праблемы жыццядзейнасці аб'яднання і яго будучыні. І я перакананы, што беларусы Масквы і аб'яднанне «Беларусь» супольнымі высілкамі змогуць ажыццявіць свае намеры. Канешне, мы разлічваем і на падтрымку паўпрэдства. Ва ўсякім разе хацелася б, каб яно трымала больш цесныя кантакты з намі і каб часцей уводзіла ў курс спраў, якія тычацца і нас.

...Закрануў я тэму ўзаемаадносін беларускіх суполак Масквы з паўнамоцным прадстаўніцтвам Савета Міністраў РБ пры ўрадзе Расійскай Федэрацыі і ў гутарцы з загадчыкам аддзела па сацыяльна - культурных пытаннях, міжнацыянальных адносінах і інфармацыі паўпрэдства Рэгінай Мінайлавай. Не так даўно актывісты суполак накіравалі на Беларусь адкрытае пісьмо. У ім яны наракаюць на тое, што з усіх 14 культурных таварыстваў з былых саюзных рэспублік, што ў Маскве, беларускае — самае занядбанае. Яно пазбаўлена, як гаворыцца ў лісце, і свайго нацыянальна - культурнага цэнтра, і выдання, і транспарту, і г. д. Адсутнічае і разуменне важнасці гэтай справы з боку паўпрэдства.

Я не даследаваў дэталёва характар і прычыны такога становішча. Але з таго, што ўжо вядома, можна прыйсці да высновы: пакуль, па словах Р. Мінайлавай, «прадстаўніцтва будзе знаходзіцца паміж небам і зямлёй», пакуль не будзе да яго належнай увагі з боку кіраўніцтва Беларусі, пры сённяшніх крызісных варунках, пры існуючым статусе гэтай установы наўрад ці што выправіцца. Дастаткова сказаць, што гэтым адказным накірункам працы займаецца фактычна адна Мінайлава, з'яўляючыся адначасова і загадчыкам, і адзіным выканаўцам.

Адным словам, сучаснае жыццё і развіццё незалежнай Беларусі настойліва вымагаюць больш актыўнага дыялога з суаўчыннікамі «бліжняга замежжа», у тым ліку і Масквы.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

# НЕПАХІСНЫ АХОЎНІК ПРЫНЦЫПАЎ БАЛЬШАВІЦКАЙ ПАРТЫЙНАСЦІ,

## або ЗА ШТО ВУЧОНЫ АРКАДЗЬ ЖУРАЎСКІ ЗАГНЕВАЎСЯ НА ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

жа я трошкі паўтаруся, але давядзецца нагадаць некаторыя факты, пра якія чамусьці мой апанент забыў, аглядваючыся на «лёс і гісторыю Беларусі». Як даўно і ўсім бясспрэчна вядомы факт А. Жураўскі паведамляе: «Трэба прыняць пад увагу і тое, што гэта дзяржаўнае ўтварэнне (маецца на ўвазе БНР. — **У. К.**) усплыло на хвалях Кастрычніцкай рэвалюцыі...»

Дык вось, шаноўны Аркадзь Іосіфавіч або забыў, або не ведае, што Беларусь пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі называлася ўсяго толькі Заходняй вобласцю, а яе кіруючы орган — Аблвыканзахам (Абласным выканаўчым камітэтам Заходняй вобласці).

А як кіраўнікі Заходняй вобласці ставіліся да беларушчыны? Я ахвотна нагадаю са спасылкай на Кнорына — спадзяюся, што гэтая фігура дастаткова аўтарытэтная для А. Жураўскага і ягоных аднадумцаў. У артыкуле, апублікаваным 12 верасня 1918 года, ён пісаў: «Белорусское движение — это воскресающий в уродливых формах социал-шовинизм, с которым мы так долго ведем борьбу. Он опасен именно потому, что приходит под дружественной маской и распространяется органами Советской власти — национальными комиссариатами.

С социал-шовинизмом мы должны вести борьбу, даже если он выступает под советским флагом».

Толькі праз дзевяць месяцаў пасля ўтварэння БНР дый то з вялікім скрыпам, было дазволена абвясціць ССРБ. А за даведкай аб тым, што пад чыім уплывам стваралася, зноў звернемся да Кнорына. Пасля ліквідацыі ССРБ ён прызнаваў: «Идея белорусской государственности не наша выдумка. Она создана буржуазными белорусскими интеллигентами-националистами». Пра «хвалю Кастрычніцкай рэвалюцыі» Кнорын чамусьці сказаць забыўся. «Противопоставляя самостоятельную Социалистическую Республику Белоруссию буржуазной народной республике во главе с Радою, мы уничтожали всякую возможность использования против нас лозунга самоопределения народов». Ці патрэбны тут каментарыі?

А што значыла для Кнорына ліквідацыя ўрада Жылуновіча? Ён красамоўна тлумачыць значэнне гэтай падзеі: «Были изжиты традиции Великой Белорусской Рады, I Всебелорусского съезда, традиции Воронко и Мамоньки, через национальную белорусскую группу перенесенные в Советское правительство».

Нагадаю, што Кнорын быў адным з тых людзей, якія вырашалі лёс Беларусі і пра якіх сам ён гаварыў: «Политическую окраску как Минску, так и всей Белоруссии придавали элементы, случайно оказавшиеся на территории Белоруссии». У апавяданні Максіма Гарэцкага «Усебеларускі з'езд 1917-га года» яны называюцца «прыблудамі». Сярод іх найгалоўнейшымі былі армянін Мяснікян (Мяснікоў), выхадцы з Латвіі Кнорыньш (Кнорын), Ландэр, Рэйнгольд, Рэзаўскі, а таксама Калмановіч (родам з Сібіры), Берсан (з Варшавы), Алібегаў (армянін). Для сённяшніх беларусаў прозвішчы добра знаёмыя — хаця б па назвах вуліц і плошчаў.

Пасля 1 студзеня 1919 года ў лексіконе Кнорына ўзаконілася слова «Беларусь», якога раней ён не прызнаваў. Але беларуская мова яшчэ доўга не дапускалася да афіцыйнага ўжытку. Пра падзеі 1920 года па гарачых слядах Максім Гарэцкі пісаў у апавяданні «Апостал»: «Курапа добра ўмеў па-беларуску, вось жа, як толькі Чырвоная Армія дала магчымасць ізноў раз абвесціць незалежную Савецкую Беларусь, ён зараз апынуўся інструктарам аддзела так званага «ўпраўленія» і дастаў камандзіроўку на правінцыю.

Набраўшы чырвонае літаратуры на ўсіх краёвых мовах, апрача беларускае, бо літаратура ў гэтай мове яшчэ лічылася да той пары контррэвалюцыйнай выдумкай беларускіх нацыяналістаў,.. ехаў ён на парцы стайковых коні па Ашмянскім тракце...»

Так яшчэ раз хочацца запытаць А. Жураўскага: хто каго натхніў на стварэнне асобнай нацыянальнай рэспублікі на нашай зямлі? Я ўсё ж такі асмелюся сказаць, што калі б не было БНР, то не было б і ССРБ у яе першым варыянце, а тая першая савецкая рэспубліка праклала дарогу для другой. Вось так БНР і аказала ўплыў на лёс Беларусі.

А. Жураўскага асабліва збянтэжыла фраза: «Сёння мы абавязаны нарэшце сказаць выразна, што беларуская літаратура і культура развіваліся толькі на тэрыторыі, якая знаходзілася пад акупацыяй то кайзераўскай Германіі, то легіёнаў Пілсудскага». Ну што ж, давядзецца яшчэ раз нагадаць свайму апаненту: пры акупацыйных рэжымах выходзілі газеты «Гоман», «Вольная Беларусь», «Беларускае жыццё», «Звон», «Беларусь», «Рунь» (рэдактарам яе з'яўляўся Янка Купала) і інш. Якуб Колас з далёкай Куршчыны, жывучы пры савецкай уладзе, пасылаў свайго «Сымона-музыку» ў «Вольную Беларусь» — да акупантаў. А чаму? Паўтару персанальна А. Жураўскаму: калі ўрад Цішкі Гартнага зрабіў захады, каб выдаваць газету на беларускай мове, то адразу ж падняўся палітычны вэрхал. Неаднойчы Кнорын у друку здзекаваўся з беларускіх «нацыянал-шавіністаў», у тым ліку і савецкіх.

Прывяду яшчэ пару цытат, каб паказаць, як гэта выглядала: «Был поднят вопрос (урадам Цішкі Гартнага. — **У. К.**) об издании в Минске газеты на белорусском языке, на что ЦБ (Цэнтральнае бюро КП(б)Б. — **У. К.**) также отказало ассигновать какие бы то ни было суммы, зная, что народные массы Минской губернии почти что не читают по-белорусски, во всяком случае предпочитают русские издания белорусским». «И при первой же возможности, на I же Всебелорусском съезде Советов, в первых числах февраля (1919 год, праз месяц пасля ўтварэння першага беларускага савецкага ўрада. — **У. К.**), представители с мест не жалели самых ярких красок для того, чтобы охарактеризовать никчемность белорусского национализма, ненужность белорусского языка для Минской губернии (астатнія губерніі перадаваліся Расіі і Літве. — **У. К.**), полную неспособность к управлению страной Жилуновича и К°». «Этим самым во временном правительстве Социалистической Советской Белоруссии были устранены всякие возможности националистической политики, был устранен национально-белорусский элемент и всякие сепаратные тенденции».

На маю заўвагу аб развіцці культуры ў перыяд грамадзянскай вайны А. Жураўскі ўсклікнуў: «Віват акупацыя!» Яму ўяўлялася, што ён сказаў нешта і іранічнае, і патрыятычнае адначасова. Бо хіба ж можа нармальны чалавек, не вырадак, праслаўляць акупантаў? Але тут аўтар артыкула — ужо каторы раз! — даў маху. Ён жа сам робіць такі вывад на падставе маіх звестак і фактаў, якія ўяўляюцца яму абсурднымі. Але абвергнуць іх ён нават і не паспрабаваў! А можа ён дакажа, што нейкія беларускамоўныя выданні з'яўляліся на тэрыторыі першай ССРБ? «Дзянніца не лічыцца, бо яна выходзіла за межамі Беларусі, да яе не маглі дацягнуцца Мяснікоў з Кнорыным з іх паталагічнай нянавісцю да беларушчыны.

Па іроніі лёсу ў 20-я гады сам Кнорын вымушаны быў ажыццяўляць палітыку беларусізацыі, але ўсё ж такі закончыў ён тым, чым пачынаў — пагромам беларускай нацыянальнай гісторыі і свядомасці.

Не шмат сказаў А. Жураўскі пра БНР. А колькі паспеў наблытаць! Ён, у прыватнасці, паведамляе, што з 25 сакавіка 1918 года «вядзецца адлік існавання Беларускай Народнай Рэспублікі». Не зусім, шаноўны Аркадзь Іосіфавіч. БНР і яе праграма былі абвешчаны раней, а 25 сакавіка была абнародавана трэцяя Устаўная грамата аб яе дзяржаўнай незалежнасці.

**Уладзімір КАЗБЯРУК.**

(Працяг будзе).

## З ГІСТОРЫІ СТАСУНКАЎ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА І ГАСПАДАРСТВА МАЛДАЎСКАГА

# ЗУБР І «ПАГОНЯ»

Зараз, калі мы звяртаемся да сваёй гісторыі і адкрываем для сябе яе трыумфы і трагедыі, велічныя постаці яе дзеячаў, важна, набываючы пачуццё годнасці, не страціць разам з тым пачуццё рэальнасці, усведамленне сапраўднага месца Бацькаўшчыны ў еўрапейскай і сусветнай гісторыі. Любая гісторыя ў пэўным сэнсе сусветная, толькі такі падыход дазваляе глыбока зразумець, што ў рэшце рэшт уплывала на тыя ці іншыя падзеі ці то ў Кракаве ды Вільні, ці то ў глухой палескай вёсцы, што па паўгода была нібыта адрэзаная ад астатняга свету, ды ўсё ж ніякім чынам не была ад яго ізаляваная. Таму і немагчыма па-сапраўднаму вывучаць, прыкладам, гісторыю Вялікага княства Літоўскага ў адрыве ад еўрапейскага і нават сусветнага кантэксту. У якасці прыкладу хацелася б прапанаваць сціслы агляд стасункаў паміж нашай старажытнай дзяржавай і Малдаўскім гаспадарствам у XIV—XVII стагоддзях. Малдова ў тыя часы не была для нас далёкай і чужой. Калі Мікола Гусоўскі піша ў сваёй славутай «Песні пра зубра»:

**Турак вунь рэжа людзей,**
**паўсюдна вунь паліць, рабуе**
**Замкі, святыя дамы, селішчы**
**і гарады.**
**Порты заняў, мацаванні паклаў і**
**войска падводзіць**
**Столькі, каб можна было знішчыць**
**астатняга з нас.**
**(пер. У. Шатона).**

дык ён мае на ўвазе захопы туркамі крымскага порта Кафы (зараз Феадосія) у 1475 годзе і малдаўскіх Кіліі ды Белгарада ў 1484, якія стварылі смяротную небяспеку і Вялікаму княству. Гэта не проста адчуванне пагрозы, але і шчырая спагада нашым паўднёвым суседзям, што прынялі на сябе першы ўдар бязлітасных асманаў. Між іншым, зубр — гэта герб малдаўскай дзяржавы, сімвал магутнасці і незалежнасці, але разам з тым і мірнай стваральнай працы. Ці не такую ж сэнсавую нагрузку нясе гэты вобраз у творы Гусоўскага і нашай свядомасці? Лёсы нашых народаў настолькі пераплеценыя, настолькі падобныя, што міма гэтага ўражальнага падабенства нельга прайсці абыякава. А колькі загадак тоіць у сабе наша сумесная гісторыя! Гэта ж сапраўдны неруш для цікаўных даследчыкаў, і трэба сказаць, што малдаўскі бок ужо пачаў яго распрацоўваць. Варта сказаць хаця б, што магчымую разгадку шляху Скарыны ў Падуанскі універсітэт, магчыма, таксама трэба шукаць у Малдове. Ёсць версія, згодна з якой Ф. Скарына пэўны час быў пісарам у войску Глінскага ў час вядомага рокашу апошняга ў 1508 годзе. Гісторыкі добра ведаюць, што рокаш быў інспіраваны Масквой, але мала хто ведае, што на яе баку дзейнічала і Малдова. Таму вельмі верагодна, што пасля няўдачы Глінскага Скарына мог уцячы ў Малдову, а потым у Валахію, і зусім невыпадковым выглядае тады той факт, што з'яўляецца Скарына праз нейкі час менавіта ў Падуанскім універсітэце (Падуя тады належала Венецыі, а менавіта венецыянская дыпламатыя была ў гэты час найбольш актыўнай палітычнай сілай у Малдове і Валахіі, імкнучыся схіліць іх да сумеснага змагання з Портай). Таму, калі даследчыкі спрачаюцца пра тое, якая «Дацыя» — Валахія ці Данія — маецца на ўвазе ў дакуменце падуанскай курыі, дзе Скарына названы «сакратаром караля Дацыі», і «малдаўскі след» мог бы дапамагчы развязаць гэтую загадку. І такіх загадак у нашай сумеснай гісторыі безліч! Зрэшты, пра ўсё па парадку.

### І ПЕРЫЯД. АД СТАРАЖЫТНАСЦІ ДА СЯРЭДЗІНЫ XV СТАГОДДЗЯ

Пачаць, мусіць, трэба ад Галіцка-Валынскага княства (Чырвонай Русі), самага магутнага з усіх друзачкаў былой «імперыі Рурыкавічаў», якое, між іншым, адначасова ўключала ў сябе і большасць земляў будучай Малдовы, і паўднёва - заходнія абшары сучаснай Беларусі. Васалам гэтай магутнай тады дзяржавы на пачатковым этапе сваёй гісторыі было і Вялікае княства Літоўскае. Прыгадайма, якую зацятую барацьбу вялі Мендаўг і Войшалк, імкнучыся пазбавіцца апекі Льва Данілавіча, як улада над Вялікім княствам была перададзена Шварну. Сведкамі тых часоў засталіся Белая вежа і Мсцібаўская сядзіба, а таксама летапісы Чырвонай Русі — найбольш каштоўныя крыніцы звестак пра пачатковы этап гісторыі Вялікага княства Літоўскага. Калі б не мангола - татарская агрэсія, гісторыя Усходняй Еўропы склалася б зусім інакш, і менавіта Чырвонай Русі было б наканавана зрабіцца яе палітычным цэнтрам. Але гэтага не адбылося, і на пачатку XIV стагоддзя Галіцка-Валынскае княства пакрысе саступіла першынство свайму паўночнаму суседу. У тыя ж часы ўзмацнілася крыжацкая агрэсія, небяспечная для ўсіх славянскіх дзяржаў — Польшчы, Вялікага княства Літоўскага, Галічыны. Першынцам іх агульнай абарончай палітыкі стаў дагавор Уладзіслава І Лакеткі і Гедыміна і наступны славуты Брандэнбургскі конны паход 1325 года войскаў Літвы на чале з Давыдам Гарадзенскім. У ім, дарэчы, удзельнічалі і малдаўскія ваяры. Гэта, бадай, першы зафіксаваны дакументальна прыклад баявой садружнасці малдаванаў і нашых продкаў, але, як убачым, не апошні.

Між іншым, перад тым як Тэўтонскі ордэн з'явіўся па запрашэнню мазавецкага князя Конрада ў Прыбалтыцы ў 1225, ён дзейнічаў у Карпатах побач з тымі землямі, дзе пазней утварылася Малдаўская дзяржава, але быў выгнаны венгерскім каралём Эндрэ ІІ. Пазней, у 1356, на перамовах з папскімі пасламі ў Празе прадстаўнікі Вялікага княства прапаноўвалі перанесці дзейнасць крыжакоў у міжрэчча Днястра і Буга, а ў 1429 Вітаўт высоўваў праект перадачы крыжакам Кіліі на Дунаі.

У канцы 30-х гадоў XIV стагоддзя з паўночнага захаду паяўляецца новы небяспечны агрэсар — Венгрыя, якая з канца 1340-х выступае ў хаўрусе з Польшчай. Гэта быў перыяд смяротнай небяспекі для нашай старажытнай дзяржавы: на пачатку 1350-х гадоў некалькі разоў пераходзіла ад Вялікага княства да польска - венгерскіх войскаў Бярэсце, і хто ведае, як склаўся б наш лёс, калі б не з'явіўся на палітычнай сцэне новы персанаж. У 1359 годзе з венгерскага каралеўства вылучылася новая дзяржава — Малдова. Тады Венгрыя была больш занята змаганнем са сваім новым суседам, і гэты фактар (у шэрагу іншых) даў магчымасць нашым продкам перавесці дух. У сваю чаргу, славутая перамога вялікалітоўскага войска ля Сініх Вод у 1363 годзе прыносіць плён і Малдове: пазбаўляе яе ад небяспекі ардынскае агрэсіі і дае магчымасць далучыць да сябе разлеглыя абшары на поўдні ўсутыч да вусцяў Дуная ды Днястра. Ёсць падставы меркаваць, што малдаване таксама ўдзельнічалі ў сіняводскай бітве на нашым баку.

З гэтага часу і да Люблінскай уніі 1569 года дзве дзяржавы мяжуюць, і, зразумела, іх стасункі робяцца больш прагматычнымі і не заўжды бясхмарнымі. Узнікаюць спрэчкі з-за мяжы, у якіх з нашага боку найбольш актыўна ўдзельнічаюць Карыятавічы — сыны Карыята Гедымінавіча. Пры нявысветленых абставінах аднаму з іх — Юрыю— удалося, відаць, на кароткі час заняць малдаўскі прастол у 1374 годзе, але ён быў атручаны мясцовымі баярамі. Магчыма, помсцячы за гэта, Альгерд у год сваёй смерці (1377) робіць няўдалую спробу карнай экспедыцыі ў Малдову.

Малдаўскія гісторыкі аспрэчваюць знаходжанне Юрыя на гаспадарскім прастоле, спасылаючыся, у прыватнасці, на тое, што ў адзінай вядомай грамаце Юры называе сябе менавіта гаспадаром, а гэты тытул замацаваўся за малдаўскімі ваяводамі толькі ў пачатку XV стагоддзя. Але трэба ўлічваць, што гэты тытул знакону мелі вялікія князі літоўскія, і Юры, зразумела, наследаваў вядомаму яму ўзору. М. Стрыйкоўскі, які неаднойчы бываў у Малдове, у тым ліку і з нашым (гэта значыць Вялікага княства) войскам, у якім ён служыў картографам, сцвярджаў, што ўласнымі вачыма бачыў магілу Юрыя ў Васлуі.

Вельмі падобным у гэты час было і развіццё рэлігійнага жыцця абедзвюх краін. Пераважную большасць насельніцтва і ў Малдове, і ў нас складалі праваслаўныя, але суседзі — Польшча і Венгрыя — з'яўляліся фарпостам каталіцкай экспансіі на ўсход і выкарыстоўвалі падтрымку Рыма для ажыццяўлення ўласных тэрытарыяльных прэтэнзій. У такіх варунках і Малдова, і Вялікае княства дзейнічаюць прыкладна аднолькава: па-першае, яны імкнуцца стварыць свае ўласныя праваслаўныя мітраполіі заміж скасаванай у 1347 годзе Галіцкай, якой падпарадкоўваліся ў царкоўным дачыненні і Малдова, і Берасцейшчына з Піншчынай, а, па-другое, ідуць на частковыя ўступкі Рыму. У 1370 годзе папа накіроўвае 20 сваіх місіянераў у «Літву і Малдову», вынікам чаго стала заснаванне новых каталіцкіх епархій: у тагачаснай сталіцы Малдовы Сірэце, а таксама ў нас — у Камянцы-Падольскім і Луцку. Апошняя пашырала сваю ўладу і на Берасцейшчыну і з'яўлялася, такім чынам, першай каталіцкай епархіяй на Беларусі.

У каталіцтва перайшла толькі невялікая частка кіруючых колаў Малдовы. Хаця сын першага ваяводы Багдана — Лацку — быў каталікам, яго жонка заставалася праваслаўнай. Ваявода Пётр Мушат быў праваслаўным, хаця ягоная маці Маргарыта прыняла каталіцтва. Становішча, добра вядомае паводле беларускіх радаводаў!

Новы этап збліжэння Вялікага княства Літоўскага і Малдовы прыпадае на час пасля Крэўскай уніі. У выніку яе аказваецца пад пагрозай незалежнасць Вялікага княства, і Малдова таксама трапляе ў васальную залежнасць ад новага польскага караля Ягайлы. Апошні ў 1387 годзе вызначае сваім пагадненнем з Пятром Мушатам мяжу паміж Польшчай і Вялікім княствам, з аднаго боку, і Малдовай, з другога, па рацэ Днестр.

Насельніцтва праваслаўных Беларусі, Украіны і Малдовы адмоўна ставілася да гегемоніі Кракава, і грамадскасць гэтых краін пачала барацьбу за скасаванне вынікаў уніі. У нас гэтая барацьба адразу ж вылучыла такога выдатнага дзеяча, як Вітаўт, у Малдове такая постаць таксама з'явілася, але прыкладна на 20 год пазней у асобе Аляксандра Добрага.

Зацятае змаганне Вітаўта з Ягайлам скончылася нарэшце Востраўскім пагадненнем 5 жніўня 1392 года (якому кагадзе споўнілася 600 год). Паводле яго дзяржаўнасць Вялікага княства была часткова адноўлена, але памяркоўнасць гэтага пагаднення адштурхнула ад Вітаўта Малдову. Таму калі ўдзельныя князі Дзмітрый - Карыбут (кн. Ноўгарад-Северскі), Уладзімір Альгердавіч (кн. Кіеўскі) і падольскі Фёдар Карыятавіч, незадаволеныя вынікамі Вострава, адмовіліся ў 1393 прысягаць Вітаўту, іх рокаш адкрыта падтрымаў і малдаўскі ваявода Раман, за спіной якога стаяў венгерскі кароль, будучы германскі імператар Сігізмунд. Вітаўт перамог удзельных князёў, але спыніў праследаванне Фёдара на малдаўскай мяжы: абачліва не хацеў псаваць стасункаў, разлічваючы мець сябра, а не ворага. Некаторыя гісторыкі нават лічаць, што Раман прысягнуў тады Вітаўту як свайму сюзерэну і што раз'юшаны Ягайла менавіта таму арганізаваў карную выправу, у выніку якой ваяводам зрабіўся Раманаў брат Штэфан. Прычым выканаўцам гэтае акцыі быў, відаць, Свідрыгайла, які тады ўпершыню з'явіўся ў Малдове і які ў наступныя паўстагоддзя быў адной з буйнейшых фігур у палітыцы абедзвюх дзяржаў.

Пасля таго, як Малдова падупала ў выніку венгерскага нападу ў 1395 годзе, Ягайлу ўдалося замацаваць свой сюзерэнітэт над ёю, але спакваля ён усё больш губляў кантроль над Вітаўтам. Абапіраючыся на мітрапаліта Кіеўскага Кіпрыяна, Вітаўт імкнецца зрабіцца свецкім сеньёрам для праваслаўных усяго ўсходу Еўропы. Увосені 1396 года ў Кіеве адбылася нарада Вітаўта, Ягайлы ды Кіпрыяна, на якой разглядаўся праект антыардынскага саюза паміж Польшчай, Вялікім княствам Літоўскім і Малдовай з удзелам Масквы, а таксама быў высунуты план Кіпрыяна далучэння да мітраполіі Малдовы і нават часткі Балгарыі (Кіпрыян, ураджэнец Тырнава, тут, мабыць, разлічваў на ўласныя сувязі). На сустрэчы ў Кіеве таксама быў, бадай, упершыню ў Вялікім княстве Літоўскім разгледжаны праект уніі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў (за 200 год да Берасцейскай уніі), якой не пярэчыў і Кіпрыян.

Трэба сказаць, што Малдова ў гэты час знаходзілася ў канфлікце з канстанцінопальскім патрыярхам, патрабуючы стварэння ўласнай мітраполіі. На гэты канфлікт разлічвалі Вітаўт з Кіпрыянам, калі прапаноўвалі патрыярху падначаліць Малдову ў рэлігійным дачыненні Кіеву. Для абгрунтавання гэтых прэтэнзій быў складзены славуты «спіс гарадоў рускіх», дзе ў тым ліку фігуравалі ўсе малдаўскія гарады. Праўда, патрыярх гэтых планаў не падтрымаў.

Галоўным кірункам палітыкі Вітаўта ў гэты час стаў паўднёвы ўсход. Ён імкнецца падначаліць сабе крымскі ўлус Залатой Арды і надзейна замацавацца ля Чорнага мора. Гэта аб'ектыўна супадае і з інтарэсамі Малдовы, і ў трагічны паход 1399 года, які скончыўся паражэннем 12 жніўня ля Ворсклы, разам з вялікалітоўскім выправілася малдаўскае войска. Паражэнне было ў пэўнай ступені справакавана Ягайлам, які разлічваў, што яно аслабіць няўрымслівыя Літву і Малдову. Магчыма, што Штэфан у гэтай бітве загінуў. Паводле другой версіі, яго на зваротным шляху забіў Свідрыгайла, які дзейнічаў па загаду Ягайлы. На трон Свідрыгайла ўзвёў Штэфанавага брата Югу, за што атрымаў ад апошняга некаторыя землі на правым беразе Днястра. Юга быў гаспадаром нядоўга. У 1401 годзе гэтае месца займае ягоны і Штэфанаў брат Аляксандр, празваны Добрым. Мажліва, што да прыходу Аляксандра да ўлады прычыніўся Вітаўт, незадаволены прапольску настроеным Югам. Вядомы дакумент 1401 года, у якім Добры называе Вітаўта «господином». Гэта, праўда, не абавязкова азначае, што Аляксандр прызнаў сябе васалам Вітаўта — абодва наўрад ці ў гэты час асмеліліся б гэтак дапячы Ягайлу.

Сярод першых поспехаў Аляксандра — развязанне канфлікту з канстанцінопальскім патрыярхам. Для ўзвядзення ў сан малдаўскага мітрапаліта Іосіфа патрыярх накіроўвае ў Малдову свайго прадстаўніка Грыгора Цамблака (нараджэнне 1364-?), пляменніка Кіпрыяна, таксама балгарына. Цамблаку наканавана адыграць велізарную ролю ў гісторыі абедзвюх дзяржаў. Ён унёс рату не толькі ў малдаўскую і беларускую рэлігійную літаратуру, але таксама ў сербскую і балгарскую. У горадзе Нямц ён заснаваў манастыр (ігуменам якога быў у 1403—1406 гадах), які зрабіўся цэнтрам малдаўскага летапісання. На працягу стагоддзяў яно вялося на канцылярскай мове, вельмі падобнай на старажытнабеларускую.

У 1406 годзе Цамблак пакідае Малдову і накіроўваецца ў Літву, сустракаецца з Вітаўтам, наведвае Кіеў і Навагрудак. Тады якраз памірае ягоны стрый Кіпрыян, і Вітаўт прапаноўвае Грыгору заняць вакансію. Але тады Цамблак не згаджаецца, відаць, з тактычных меркаванняў.

У 1406—1407 гадах Свідрыгайла ўзнімае рокаш супроць Вітаўта і Ягайлы, скарыстаўшы незадаволенасць праваслаўнага насельніцтва княства Крэўскай уніяй. Гэтыя настроі выклікалі сімпатыі і ў Малдове, дзе ў Свідрыгайлы да таго ж былі даўнія сувязі, таму Ягайла ў кастрычніку 1407 года нават прымушае Аляксандра нанава прынесці васальную прысягу.

Малдаўскія ваяры бралі ўдзел у дзвюх войнах Польшчы і Вялікага княства Літоўскага з Тэўтонскім ордэнам і абодва разы прычыніліся да перамогі. Першы раз — у славутай Вялікай вайне 1409—1411 гадоў і ў тым ліку ў Грунвальдскай бітве, а другі — у вайне 1422 года.

**Алесь БЕЛЫ.**

**(Працяг будзе).**

# НЕ Ў АДНЫ ДЗВЕРЫ

## СТУКАЎСЯ ІВАН ТАМАШЭВІЧ, ПАКУЛЬ СТАЎ ПРАФЕСІЙНЫМ СПЕВАКОМ

ЗМОЎКЛІ апладысменты. Апусцела зала. А Іван Тамашэвіч зморана сядзеў на крэсле ля піяніна, перабіраў рукамі чырвоныя гваздзікі. Не час было заводзіць гутарку, але я пабаяўся, што можа і не надарыцца іншага выпадку, каб задаць некалькі пытанняў лаўрэату міжнароднага, усесаюзнага і рэспубліканскага конкурсаў, заслужанаму артысту Рэспублікі Беларусь, і таму падняўся на сцэну.

— Які поспех, Іван Мікалаевіч!— пачаў я гаворку са спеваком.— Колькі кветак, апладысментаў. Вельмі добра вы спявалі, слухачы шчыра ўдзячныя вам за канцэрт.

— Я гэта адчуваў. І вельмі ўдзячны, у сваю чаргу, тым, хто прыйшоў сюды,— адказаў Іван Тамашэвіч.— Вось толькі не ведаю, ці прысутнічалі сёння ў зале кіраўнікі кансерваторыі, тыя, хто некалі не даў мне вучыцца тут, сцвярджалі, што я, сляпы, ніколі не стану прафесійным артыстам.

Я быў уражаны. Як гэта — не давалі магчымасці стаць спеваком? Хіба ж можна так проста загубіць, як кажуць, божы дар у чалавеку? А ім, гэтым дарам, якраз і валодае Іван Мікалаевіч, што яшчэ раз даказаў сёння, калі выступіў са сваім сольным канцэртам ў кансерваторыі. Ці можа такое быць?

— Можа, так яно і было,— кажа Іван Мікалаевіч і запрашае выбраць хвілінку і прыйсці пагутарыць да яго дамоў, на вуліцу Заслаўскую ў Мінску.

І вось такі выпадак надарыўся. Іван Тамашэвіч расказаў пра сябе.

...Ад Мерчы да Лазіц — рукой падаць. Па выхадных днях, у святы прывыклі людзі бачыць бабулю з хлопчыкам на дарозе ў суседнюю вёску.

Ішлі няспешна. Час ад часу бабуля казала маломУ Іванку: «Сонейка зямлю грэе... А колькі кветачак на лузе! Матылькі над імі так і кружацца, так і кружацца. Бог дасць, і ты гэта хараство ўбачыш».

Але колькі ні хадзілі ў царкву ў вёсцы Лазіцы, колькі ні маліліся, Бог нічога не даў.

Вельмі часта, калі ішлі па той дарозе, Іванка прасіў бабулю:

— Пачакай, давай крышачку адпачнём.

Яны садзіліся на траву ля дарогі, і Іванка доўга слухаў песні жаваранка. Параўноўваў: у роднай вёсцы Мерч, што на Магілёўшчыне, даводзілася чуць і салаўя. Непераўзыдзены спявак! Няма яму роўні. Але салавей — франт, выводзіць «свецкія», «арыстакратычныя» мелодыі.

Іншая справа — жаваранак. Больш просты. Кожная мелодыя зразумелая ўсім. Быццам не пяе, а расказвае. «Вось бы і мне так навучыцца спяваць»,— марыў Іванка.

Ды і ў Лазіцы ён хадзіў, хутчэй не маліцца, а паслухаць спевы царкоўнага хору. Добрыя выканаўцы падабраліся ў ім. Гатовы быў слухаць гадзінамі. І калі хто-небудзь не прыйдзе, то, здавалася хлопчыку, і ўся мелодыя парушалася, нечага не хапала.

Дзяцінства, напэўна, ва ўсіх аднолькавае: не задумваешся ні аб чым. Так і ў Івана. Сябраваў з аднагодкамі, басанож бегаў па вясковай вуліцы — жыў бестурботна, як і ўсе, пазнаваў па голасу вяскоўцаў.

Але аднойчы яму сказалі, што трэба ехаць у спецыяльную школу вучыцца. Мала-памалу хлопчык разумеў, што ў яго штосьці не так, як у іншых.

— Павязлі мяне ў Шклоў,— успамінае Іван Мікалаевіч,— а там строгі рэжым: пад'ём, яда, вучоба — усё распісана па гадзінах. Вучоба давалася лёгка, стаў удзельнічаць у мастацкай самадзейнасці...

— ...І, вядома, вы сталі вядучым салістам?— не вытрымаў я, калі слухаў расказ Тамашэвіча.

— Спачатку мне больш падабалася дэкламаваць вершы, урыўкі з твораў класікаў, пакрыху і спяваў. Хаця спевамі сур'ёзна заняўся з прыходам у школу настаўніка музыкі і спеваў Чаркасава. Ён быў прафесіяналам у сваёй справе, горача любіў прадмет, які выкладаў. Да кожнага ўдзельніка меў індывідуальны падыход. Вось і мне параіў сур'ёзна заняцца класікай. Калі я пачаў спяваць, то стараўся неяк быць падобным (манерай, строгім падборам рэпертуару і г. д.) на Лемешава, Шаляпіна, Гмыру... Захапляўся творчасцю Русланавай, яе народнымі песнямі. Мне ж настаўнік казаў, каб я шукаў сваё, пеў уласным голасам. І параіў паехаць у Гродна ў музычна-педагагічнае вучылішча. Праўда, папярэдзіў: «Ведаю, што будзе цяжка, колькі бар'ераў прыйдзецца пераадолець. Не кожнаму іх і адолець, асабліва табе...»

Апошнім словам Чаркасава Іван Тамашэвіч не вельмі надаў значэння. Якія там «бар'еры»! У школе вучыўся выдатна. Пасля з сямі чалавек на адно месца паступіў ён адзін. Недзе на другім курсе наладзіў у вучылішчы сольны канцэрт. Сустрэлі цёпла. І незабыўная сустрэча са знакамітасцю — артыстам Вялікага тэатра СССР Паўлам Лісіцыянам.

— Я спачатку вельмі хваляваўся, нават крыху палохаўся яго. А ён проста падышоў да мяне, падбадзёрыў, часам хваліў, часам далікатна папраўляў. Пасля нібы падвёў вынікі, параіў: «Табе, Ваня, гэтага вучылішча мала, не спыняйся на ім».

Скончыў ён вучылішча, ледзь не са стопрацэнтнай упэўненасцю паехаў у Мінск. Накіраваўся да рэктара кансерваторыі Уладзіміра Алоўнікава.

У той час імя Уладзіміра Уладзіміравіча Алоўнікава ў рэспубліцы вымаўлялася з вялікай пашанай. Як жа! Вядомы кампазітар. Адна яго песня «Ой, бярозы ды сосны» чаго вартая!

— Не, не атрымалася ў нас размовы, — кажа Іван Тамашэвіч.— Ужо з першых слоў кампазітара я зразумеў, што натрапіў на «сцяну»: «Вас будуць шкадаваць, смаркацца ў хусцінкі слухачы. Як бы вы ні спявалі, а прафесійным спеваком не станеце. Я ніколі не прыму вас да сябе ў кансерваторыю».






НА ЗДЫМКАХ: афіша-запрашэнне на сольны канцэрт лаўрэата міжнароднага, усесаюзнага і рэспубліканскага конкурсаў, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Івана ТАМАШЭВІЧА; у выхадны дзень у сям'і.

Фота Віктара СТАВЕРА.

Акрылены яго словамі, Іван Мікалаевіч едзе ў Мінскую кансерваторыю на праслухоўванне да Сяргея Асколкава. «Добра,— заключыў той,— заканчвайце вучылішча і прыязджайце да нас».

Калі не лічыць таго, што Іван Мікалаевіч закончыў вучылішча з адзнакай, то менавіта гэтай сустрэчай з Сяргеем Асколкавым і канчаюцца бязвоблачныя дні ў жыцці маладога спевака. Прыйшло ўсведамленне, што за існаванне, як кажуць, пад сонцам трэба змагацца. І нямногія вытрымліваюць такую барацьбу. Тым больш, калі «наверсе» сядзяць бюракраты і бяздушныя людзі. Аднаго іх слова хапала, каб вяршыць лёсы. Таленты не браліся ў разлік. Так адбылося і з Іванам Мікалаевічам.

Гэтыя «я», «да сябе» ў вуснах карыфеяў і знакамітасцей у той час былі ледзь не магічнымі словамі, законам, загадам «к исполнению».

З гэтага ўсё і пачалося: то на працу добрую не ўладкавацца, то кватэру не знайсці. Атрымліваў 67 рублёў, з іх 50 аддаваў за кватэру, калі прыехаў працаваць у Шклоў.

— Адно радавала, што сустрэў я тут зямлячку, добрага чалавека Любачку, якая хутка стала маёй жонкай,— успамінае Іван Мікалаевіч.

— Цяжка было, — уступае ў размову Любоў Міхайлаўна.— Акрамя праблемы з жыллём, зарплатай, трэба і дзяцей гадаваць (іх у Тамашэвічаў двое — сыны), нібы тыя ваенныя, «заўжды сядзець на чамаданах»— Шклоў, Бабруйск, Полацк, цяпер — Мінск.

Работа ў мастацкай самадзейнасці не вельмі задавальняла Івана Мікалаевіча. Літаральна яшчэ ўчора мы гаварылі, што ў кожнай вёсцы (не кажам пра горад), на кожным прадпрыемстве толькі «свісні», як прыбягуць ледзь не ўсёй грамадой, каб запісацца ў самадзейныя артысты. У жыцці не так. Тамашэвіч у Бабруйску ўзначальваў такі калектыў. Час рэпетыцыі — а палова артыстаў адсутнічае, таму што майстар пакрыўдзіў іх, не выпісаў прэмію. І тут без матэрыяльнага стымулу ні кроку.

Цярпеў бы Іван Мікалаевіч, вядома, ды мара стаць прафесійным артыстам не давала спакою. Вёў перапіску з вядомым дырыжорам Барысам Райскім, кампазітарам Ігарам Лучанком.

І вось ужо першы дэбют на Рэспубліканскім радыё — праспяваў песню Я. Фрэнкеля «Рускае поле». Супрацоўніцтва з радыё, пазней з тэлебачаннем працягваецца і па сёння.

Неяк прыйшлося слухаць канцэрт па заяўках радыёслухачоў «Жадаю вам». Аўтар ліста прасіў выканаць песню «Блыха» і падкрэсліў: «Няхай яе выканае Іван Тамашэвіч».

Удала падабраны рэпертуар дапамагае артысту заўжды мець поспех на сцэне ці перад мікрафонам на радыё.

У гэтым сэнсе характэрны прыклад і з Іванам Тамашэвічам. Скрупулёзна падбірае ён творы перад кожным выступленнем.

— Прафесійны артыст,— кажа Іван Мікалаевіч,— можа ўзяцца за многія творы. Але павінен выконваць перад аўдыторыяй толькі тыя, мелодыю якіх адчувае душой, сэрцам, ужываецца ў яе. Артысту, які не разумее гумару ў жыцці, ніколі не ўдаецца жартоўная песня.

Строгі, прынцыповы падыход да выбару рэпертуару дапамагае Івану Мікалаевічу спадзявацца на поспех. Удзячныя паклоннікі артыста цёпла ўспрымаюць творы, якія выконвае Іван Мікалаевіч. Гэта і народныя песні «Блыха», «Кума мая, кумачка», «Забалела ды мая галованька», сучасныя беларускія «Шумныя бярозы», «Я перад вамі з памяццю сваёй» і многія іншыя. Асобая старонка—рамансы і арыі. Многія з іх ён уключыў і ў той памятны сольны канцэрт у кансерваторыі: творы Шуберта, Бізэ, Чайкоўскага, Глінкі, Даргамыжскага гучалі тады ў выкананні ўжо добра вядомага і любімага публікай артыста.

Які доўгі і цяжкі шлях да прызнання! Была яшчэ спроба паступіць у Ленінградскую кансерваторыю. Рэктар П. Серабракоў, паслухаўшы Івана Мікалаевіча, спачатку «хібіў»: «Дык вы ж ужо артыст, што мы тут вам дадзім?» А калі беларускі хлопец пачаў настойваць, адрэзаў: «Гэта немагчыма. Будзеце пераходзіць вуліцу, трапіце пад транспарт, а нам адказвай за вас».

Можна было б супакоіцца, калі пераехаў з Бабруйска ў Полацк выкладчыкам спеваў і музыкі (ён іграе на музычных інструментах), атрымаў трохпакаёвую кватэру.

Дык не, зноў не давала спакою думка, што не дасягнуў мары, не стаў прафесійным артыстам.

Ізноў паездка. Запісаўся на прыём да тагачаснага намесніка старшыні Савета Міністраў БССР Н. Сняжковай, якая курыравала культуру. Падтрымка і рэкамендацыя вядомых артыстаў і кампазітараў дапамаглі пераехаць у Мінск. Вучоба ў педагагічным інстытуце, афіцыйнае прызнанне як прафесійнага артыста, добрая праца ў Рэспубліканскім таварыстве сляпых — узначаліў музычнае эстраднае аб'яднанне, гастрольныя паездкі за мяжу. На гэтым можна і паставіць кропку. Цяжкая біяграфія, бязлітасны лёс. Не кожны бы і вытрымаў такое, а дамогшыся многага, і супакоіўся б напэўна.

Толькі не Іван Мікалаевіч. Адно выступленне за другім: перад гледачамі свайго таварыства, перад гасцямі — замежнымі суайчыннікамі. І бясконцыя рэпетыцыі. Шліфуе Іван Тамашэвіч кожную ноту, кожны акорд, свае веды замежнай мовы — цяпер амаль без акцэнту выконвае творы на нямецкай мове, выхоўвае дзяцей, вучыць іх спяваць, іграць на музычных інструментах... Усяго так многа. Але гэтае «многа», як падкрэсліў у заключэнне нашай гутаркі Іван Тамашэвіч, і дастаўляе яму шчасце. Ён адчувае сябе паўнацэнным чалавекам, часцінкай грамадства.

Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.

### ДАСЛЕДЧЫК ТВОРЧАСЦІ ЯКУБА КОЛАСА

# СВЕТЛЫ ВОБРАЗ ДАЛЁКІХ УСПАМІНАЎ



Ёсць людзі, якія запамінаюцца на ўсё жыццё ад першай з імі сустрэчы, з першага слова яны прываблівоюць да сябе, нібы заварожваюць ветлівасцю, цеплынёй, шчырасцю, прастатой душы, чулымі адносінамі да звычайнага, нічым непрыкметнага чалавека. Да такіх людзей адносіўся і Юльян Пшыркоў, вядомы беларускі літаратуразнавец і крытык, доктар філалагічных навук, прафесар. Ён вядомы як вучоны не толькі ў нашай краіне, асабліва ў даследаванні творчасці народнага паэта Беларусі Якуба Коласа.

Юльяна Пшыркова з Якубам Коласам яднала і шчырае сяброўства. Яны паміж сабой вялі перапіску і не спынялі яе, калі Юльян Сяргеевіч быў на службе ў Чырвонай Арміі ў час Вялікай Айчыннай вайны, удзельнічаў у баях пад Ленінградам і Кёнігсбергам. Пасля дэмабілізацыі Юльян Пшыркоў працаваў непасрэдна пад кіраўніцтвам Якуба Коласа, узначальваў сектар дакастрычніцкай літаратуры і тэксталогіі ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Не выпадкова Юльян Сяргеевіч так глыбока і дэталёва змог даследаваць усю творчасць Якуба Коласа, ацаніць талент паэта і нават унаследаваць некаторыя рысы яго характару.

Спачатку я ведаў Юльяна Пшыркова толькі па навуковых працах, па фатаграфіях. Аб ім шмат цёплых слоў чуў ад студэнтаў БДУ, дзе ён выкладаў беларускую літаратуру, ад студэнтаў педагагічнага інстытута імя М. Горкага, з якімі мне даводзілася сустракацца, калі я працаваў школьным інспектарам у Гродзенскім раённым аддзеле народнай асветы. Шмат аб ім добрага расказваў у той час студэнт БДУ Іван Кавальчук, які зараз працуе дырэктарам Квасоўскай сярэдняй школы Гродзенскага раёна, і іншыя. Такім чынам, можна сказаць, як чалавека, як педагога, як выдатнага беларускага вучонага Юльяна Пшыркова я ведаў завочна і вельмі яго паважаў. Мне чамусьці здавалася, што ў яго шмат коласаўскага, што ён сам нават падобны да Якуба Коласа і па свайму вонкаваму выгляду, і па характару. Я не памыляўся, інтуіцыя мяне не падводзіла. У гэтым канчаткова пераканаўся, пазнаёміўшыся з Юльянам Сяргеевічам асабіста, калі ён разам з іншымі вучонымі з Мінска прыехаў у Гродна і выступаў перад студэнтамі ў Гродзенскім педагагічным інстытуце імя Янкі Купалы. Тут я ўпершыню пачуў мілагучны, не вельмі паспешлівы яго голас. Перада мной стаяў чалавек невысокага росту, сярэдняй камплекцыі, з вельмі прыемным тварам, з якога не сыходзіла шчырая, добрая ўсмешка.

Пасля выступлення адміністрацыя педінстытута запрапанавала гасцям з Мінска паехаць на вечар у Друскінінкай, але Юльян Сяргеевіч ад паездкі катэгарычна адмовіўся, сказаў, што яму тэрмінова трэбе вяртацца ў Мінск. Аднаго яго пакінуць было няёмка. Па гэтай прычыне загадчык кафедры беларускай літаратуры педінстытута Аляксей Пяткевіч запрапанаваў мне яго суправаджаць да аэрапорта. Я рады быў, што на маю долю выпаў такі гонар. Памятаю, Юльян Сяргеевіч падышоў да мяне, сказаў: «Гэта вы бацька Генадзя Цыхуна? Будзем знаёмы». Спачатку мне было неяк няёмка, я не ведаў, як паводзіць сябе з вядомым вучоным, але хутка заўважыў, што ў Юльяна Сяргеевіча не было той фанабэрыстасці, пыхлівасці, якая сустракаецца ў асобных вучоных. У нас неяк адразу пайшла шчырая гутарка. Юльян Сяргеевіч цікавіўся маёй работай школьнага інспектара. Ён пытаў, як абстаіць справа ў школах раёна з выкладаннем беларускай мовы і літаратуры. Ці ёсць такія вучні, якія не жадаюць вывучаць роднай мовы.

Да аэрапорта ехалі аўтобусам. Юльян Сяргеевіч прыгадаў, што і ён некалі быў сельскім настаўнікам, расказваў, над чым ён зараз працуе ў Інстытуце літаратуры ў Акадэміі навук. Непрыкметна прайшоў час, але калі мы даехалі да аэрапорта, нам паведамілі, што самалёт на Мінск адлятае ў 20.00 і нам давядзецца чакаць да самага вечара. Вестка гэта крыху засмуціла Юльяна Сяргеевіча. Тады я запрапанаваў яму пайсці ў лес. Ён ахвотна згадзіўся, і мы неўзабаве апынуліся ў бліжэйшым сасновым лесе. Была восень. Павольна скідалі дрэвы пажоўклую лістоту. Стаяла непарушная цішыня. Перад намі стракацелі рознакаляровыя мухаморы, сыраежкі, пападаліся і добрыя грыбы. Юльян Сяргеевіч знайшоў два баравікі і некалькі чырвонагаловікаў. Мне больш трапляліся маслякі, лісічкі. Той год быў грыбны, бо часта праходзілі зацяжныя дажджы.

Непрыкметна праляцеў час. І вось мы ізноў у аэрапорце. Юльян Сяргеевіч развітаўся са мной і знік з маіх вачэй. Самалёт шпарка пакаціўся па ўзлётнай паласе, падняўся ў неба, зрабіў традыцыйнае паўколле і ўзяў курс на Мінск. Я доўга стаяў, праводзячы вачыма самалёт, аж пакуль ён не расплыўся ў шэрані неба, а на душы быў сум, быццам я страціў нешта дарагое...

Працуючы школьным інспектарам, я захапляўся краязнаўчай работай. Наведваючы школы, бываючы ў вёсках, запісваў народныя песні, тапанімічныя назвы, дыялектную лексіку, трапныя выслоўі. Збіраў звесткі аб земляках, пісьменніках, вучоных, у тым ліку і пра славутага земляка, акадэміка Я. Карскага. На працягу 10 год карпатлівых пошукаў, разнастайных звестак і фактычных матэрыялаў мне ўдалося сабраць унікальны ілюстрацыйны і тэкставы матэрыял, на падставе якога я падрыхтаваў альбом «Я. Ф. Карскі. Жыццё і дзейнасць». З гэтай працай я звярнуўся ў рэдакцыйна-выдавецкі Савет Акадэміі навук БССР, каб з ёй азнаёміліся і аказалі садзеянне ў яе надрукаванні.

Па прапанове віцэ-прэзідэнта АН БССР Кандрата Крапівы навуковым рэдактарам маёй працы быў прызначаны Юльян Пшыркоў. Такім чынам я зноў сустрэўся з гэтым цудоўным, глыбокай душы чалавекам. Ён зноў заваражыў мяне шчырасцю, прастатой, ветлівасцю да мяне, вясковага настаўніка, які ўзяўся за даволі складаную працу.

Нягледзячы на занятасць у АН БССР, на шматгранную работу па рэдагаванні розных выданняў, у тым ліку рэдагаванні на грамадскіх пачатках, Юльян Сяргеевіч вельмі сумленна, можна сказаць, па-бацькоўску паставіўся і да маёй працы. Пад яго кіраўніцтвам рукапіс альбома два разы перапрацоўваўся. У працэсе работы Юльян Сяргеевіч даваў мне вельмі каштоўныя парады, падказваў, адкуль узяць той альбо іншы матэрыял, літаратуру. І ўсё гэта рабіў тактоўна, чула, як спрактыкаваны педагог і дарадца.

Напярэдадні кожнага свята першая паштоўка, якую я атрымліваў, была напісана рукой Юльяна Пшыркова. Да сённяшняга дня іх у мяне захавалася больш сарака. Берагу іх, захоўваю, як дарагую памяць аб блізкім мне чалавеку, якога ўжо даўно няма сярод нас.

Успамінаю: неяк надарыўся мне выпадак з сынам Генадзем наведаць сям'ю Пшырковых. Жыла яна ў Мінску па вуліцы Светлай, у доме пад нумарам 7, у скромным асабнячку, які больш за ўсё нагадваў сялянскую хату. Каля дома быў сад. Сам Юльян Сяргеевіч яго пасадзіў, сам яго і вырасціў, рабіў прышчэпкі добрымі гатункамі. Па яго просьбе і я яму выслаў са сваёй грушы «Царская» некалькі садовых прышчэпак. У доме Пшырковых нас здзівіла незвычайная гасціннасць яго гаспадароў.

Я вельмі ўдзячны Юльяну Пшыркову за дапамогу, якую ён мне аказваў у падрыхтоўцы да выдання альбома «Я. Ф. Карскі. Жыццё і творчасць», хаця гэта праца да сённяшняга дня не ўбачыла свету. Часта ўспамінаю, колькі ён прыкладаў старання, каб альбом быў выдадзены. У асобе Юльяна Сяргеевіча я сустрэў чалавека гуманнага, вельмі чулай душы, высокай чалавечай культуры, сціплага, зычлівага. Такія людзі не знікаюць з памяці, не паміраюць.

**Апанас ЦЫХУН,**
**заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь.**

### З ГІСТОРЫІ ЧАРНОБЫЛЬСКІХ ВЁСАК

# БРАГІНСКІЯ САВІЧЫ

ВЁСКА САВІЧЫ, былы цэнтр сельсавета Брагінскага раёна, размешчана ў 22 кіламетрах на поўдзень ад г. п. Брагін у зоне са шчыльнасцю радыеактыўнага забруджання цэзіем-137 ад 5 да 15 кюры на квадратны кіламетр. У цяперашні час Савічы ўваходзяць у Хракавіцкі сельсавет (вёска Хракавічы).

Савічы згадваюцца ў ліку найбольш буйных населеных пунктаў былога Рэчыцкага павета Мінскай губерні ў кнізе «Волости и важнейшие селения Европейской России. — Вып. V. — Губернии Литовской и Белорусской областей» (С.-Птб., 1886, с. 113). У канцы XIX стагоддзя Савічы з'яўляліся цэнтрам воласці, у іх налічвалася 94 двары, пражывала 580 чалавек, меліся валаснoе праўленне, школа, ветраны і конны млыны, дзве гандлёвыя крамы, капліца. У адной вярсце ад вёскі размяшчалася сядзіба **Савічы,** якая ўжо тады, мусіць, была вядома пад назвай **Двор-Савічы** (у наш час — населены пункт Хракавіцкага сельсавета). Аб часе ўзнікнення вёскі, якая нас цікавіць, ніякіх звестак няма, аднак пэўную інфармацыю аб гэтым дае назва вёскі, дакладней, будова, структура геаграфічнага імя.

Згодна з мясцовым паданнем, нейкі чалавек, якога звалі Сава (Савва), выкупіў зямлю ў пана і пасяліўся на месцы будучай вёскі. Нашчадкі гэтага чалавека, яго дзеці, унукі, праўнукі, былі вядомы ў навакоЛлях як **Савічаў род.** Адсюль і месца, дзе жыў гэты род, сталі называць Савічамі.

Другі варыянт гэтага ж падання змяшчае больш падрабязнасцей і паведамляе некалькі іншых звестак. Першага чалавека, які пасяліўся ў тутэйшых мясцінах, звалі Савіч Сцяпан. Ён раскарчаваў лес і пабудаваў сабе хату. Сам сеяў, араў, разводзіў жывёлу. Паколькі вакол былі незанятыя землі, да Сцяпана паступова пачалі перасяляцца з суседніх вёсак людзі. Неўзабаве ўтварыўся хутар з 20 двароў, у вёсцы ж у момант яе росквіту (калі?) быццам бы налічвалася 200 двароў (статыстычныя матэрыялы XIX стагоддзя гэтага не пацвярджаюць). Савіч Сцяпан, апавядаецца далей у паданні, у рэшце рэшт стаў прадпрымальнікам, «купцом»: ён сплаўляў лес па рэчцы Брагінцы ў Днепр і далей—на Украіну. Аб гэтым чалавеку ў старажылаў захаваліся самыя цёплыя ўспаміны.

У рэальнасці Сцяпана Савіча, мясцовага «купца», цяжка сумнявацца. Аднак не ён, хутчэй за ўсё, быў заснавальнікам вёскі, бо само прозвішча **Савіч** утворана ад назвы пасялення — **Савічы,** а не наадварот. Савіч Сцяпан, як можна меркаваць, з'яўляўся адным з найбольш выдатных нашчадкаў першых жыхароў вёскі — **савічаў.** Менавіта гэтая «калектыўная мянушка» і трансфармавалася ў геаграфічную назву прыкладна ў XV—XVI стагоддзях, але не раней XII—XIII стагоддзяў, паколькі актыўнае адлюстраванне ў тапаніміі, у тым ліку ў назвах на **-ічы,** хрысціянскіх імёнаў (**Сава** — з грэчаскай мовы, літаральна — «той, хто нарадзіўся ў суботу») пачалося менавіта ў XIII—XIV стагоддзях і працягвалася да XVI—XVII стагоддзяў (маецца на ўвазе прадуктыўнасць менавіта найменняў вёсак на **-ічы**). Цікава адзначыць, што мясцовыя жыхары ставяць націск у назве вёскі як на першым складзе, так і на другім — **Са́вічы і Саві́чы.**

Аб паходжанні назвы **Двор-Савічы** апавядаюць наступнае. Тут сапраўды размяшчалася панская сядзіба. Людзі, якія працавалі на пана, жылі ў Савічах (адзін кіламетр ад даўняга Двара). У былым панскім доме цяпер знаходзіцца бальніца. Старажылы памятаюць прозвішча пана — **Зямлянскі** (відаць, яны прыгадваюць самага апошняга ўладальніка і яго сям'ю, аб папярэдніках звестак няма). Старажылы сцвярджаюць, што сам пан Зямлянскі жыў у Польшчы, у Савічах жа ўсімі гаспадарчымі пытаннямі займаўся кіраўнік па прозвішчу Чарапанаў. На тэрыторыі сядзібы быў пабудаваны спіртавы завод (нагадаНы вышэй статыстычны даведнік называе броварны заводзік у сядзібе Савічы). Тут жа меліся паравы млын, свірны і склады. Кіраўнік плаціў добра, таму праблемы з рабочай сілай у сядзібе Савічы не існавала. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Двор-Савічы быў фактычна спустошаны, а бро-

(Заканчэнне на 8-й стар.).



**Трыццацігадовы прадпрымальнік з ЗША прэзідэнт амерыканскай фірмы «СФ Рэкордс ІНК» Рыгор Фіглін вырашыў падарыць Гомелю... тэатр. Мецэнат нарадзіўся ў горадзе на Сожы, тут жывуць яго бацькі, сябры, тут ён рабіў першыя крокі ў бізнесе.**
**У Дзяржкамітэце па знешнеэканамічных сувязях Рэспублікі Беларусь новая ўстанова культуры Гомеля зарэгістравана як замежнае прадпрыемства «Незалежны тэатр «СФ Рэкордс ІНК» (ЗША)». Праўда, самога будынка ў тэатра пакуль няма, але прэм'ера ўжо адбылася. «Вандроўнікі ў ночы» па п'есе балгарскага драматурга Страціева — першая работа, якую паказаў гамяльчанам новы тэатральны калектыў.**
**НА ЗДЫМКУ: мастацкі кіраўнік «Незалежнага тэатра» Якаў НАТАПАЎ (злева) і Рыгор ФІГЛІН.**



Цікавы этнаграфічны музей «Спадчына» створаны ў палескай глыбінцы — у сярэдняй школе вёскі Прыбалавічы Лельчыцкага раёна. Памяшканне яго невялікае, але колькі унікальных экспанатаў сабрана тут! Сталярны і кавальскі інструмент, прыстасаванні для прадзення і ткацтва, гліняны посуд, старадаўні абутак і мноства іншых прадметаў сялянскага побыту. Упрыгажэнне экспазіцыі — яркія народныя касцюмы і ручнікі, створаныя мясцовымі майстрыхамі.

Музей стаў выдатным дапаможнікам у вывучэнні гісторыі роднай зямлі, традыцый і звычаяў Палесся.

НА ЗДЫМКУ: школьны музей «Спадчына» ў вёсцы Прыбалавічы Лельчыцкага раёна.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

## ПАВАЖАНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ «ДАЛЁКАГА ЗАМЕЖЖА»!

**У сувязі з вялікім падаражаннем кошту выданняў, даводзім да вашага ведама, што ў 1993 годзе «Голас Радзімы» будзе дасылацца на Захад толькі на ўмовах валютнай падпіскі. Падпісацца на «Голас Радзімы» вы зможаце ў контрагентаў і фірмах, якія супрацоўнічаюць з асацыяцыяй «Міжнародная кніга» і знаходзяцца ў краінах вашага пражывання. Індэкс газеты 63854, падпісная цана 58 долараў ЗША на год.**

**Адрасы прадстаўніцтваў «Міжнароднай кнігі» за мяжой будуць надрукаваны пазней. Сачыце за нашымі аб'явамі.**

# БРАГІНСКІЯ САВІЧЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

варны заводзік узарваны. Успамінаюць, што спірт са складоў цёк у літаральным сэнсе слова ракой, бо напаўняў равы. нізіны, паглыбленыя месцы. Людзі ж, сяляне, вычэрпвалі спірт з равоў вёдрамі. Яшчэ старажылы сцвярджаюць, што пан перад уцёкамі закапаў сваё багацце (скарб) пад высокім старым дубам, які не могуць абхапіць і сем чалавек. Пошукі ж скарбу, якімі займалася не адно пакаленне савічан, поспехам не ўвянчаліся.

Пасля рэвалюцыі на базе панскага маёнтка арганізавалі камуну, але доўга яна не праіснавала (тут бясплатна кармілі бяздомных, жабракоў). Вядомы імёны стваральнікаў камуны — Іван Голік, Марцьян Фурс і нехта Дземідовіч. Камуну пераўтварылі ў калгас «Інтэрнацыянал».

Людзі ў наваколлях Савічаў жылі з глобокай старажытнасці. За адзін кіламетр на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы **Гарадок**, ці **Салавіца**, у лесе, знаходзіцца гарадзішча, якое адносіцца да ранняга жалезнага веку (жалезны век на тэрыторыі Беларусі пачаўся ў VIII—VI стагоддзях да новай эры). Гэты помнік археалогіі быў адкрыты ў 1929 годзе. даследаваўся ў 1957, 1964 і 1975 гадах, раскопкі тут, аднак, не праводзіліся. Згодна з мясцовым паданнем, ва ўрочышчы Салавіца пры Кацярыне II быў узведзены ўмацаваны гарадок («калектыўная памяць», як бачым, звязвае месцы археалагічных старажытнасцей з імёнамі тых асоб, якія мелі, калі не прамыя, то ўскосныя адносіны да адпаведнай мясцовасці; успомнім падарожжа імператрыцы Кацярыны II у канцы XVIII стагоддзя ў Крым і Маларосію). На месцы гарадзішча савічане традыцыйна ўладжваюць гулянні, святы. Назва **Салавіца** матывуецца пры супастаўленні з лексічнымі фактамі балцкіх моў: літоўскае, латышскае **сала** — «вёска сярод балота», «востраў», «дубовы гай», «узвышша». Цікава, што Гарадок, ці Салавіца, уяўляюць сабой якраз узвышша, у старажытнасці тут існавала пасяленне.

Геаграфічныя назвы з коранем **сал** распаўсюджаны ў вельмі шырокім арэале — ва Усходняй Еўропе (славянскі, балцкі, ілірыйскі, фракійскі этнамоўныя арэалы) і нават у Малой Азіі (асабліва шмат назваў водных аб'ектаў з гэтым коранем: **Саложа, Сална, Саліха, Салова** і інш.). Назва **Салавіца** аформлена славянскім суфіксам — **-авіц**, корань жа можа мець вельмі старажытныя, індаеўрапейскія вытокі і тлумачыцца як «вада, балота, крыніца». Усё гэта падказвае іншую інтэрпрэтацыю назвы: яна можа ўказваць, што ў наваколлях Салавіцы ў мінулым меўся вадасцёк, які ўпадаў у Брагінку. Адсюль становяцца зразумелымі дзве зусім розныя назвы, якія датычацца гарадзішча — **Гарадок** (уласна пасяленне мінулых стагоддзяў) і **Салавіца** (рэчка каля гэтага археалагічнага помніка).

Мясцовасць вакол вёскі Савічы балоцістая. Дарэчы, назва **Салавіца** ва ўжыванні жыхарамі вёскі Двор-Савічы адносіцца не толькі да ўрочышча з археалагічнымі старажытнасцямі, але і да лесу, у якім расце пераважна вольха.

Вось яшчэ некалькі назваў лясоў ці ўчасткаў аднаго лесу, якія ўжываюцца ў абодвух населеных пунктах. **Бор** — вялізны дубовы лес паміж Савічамі і вёскай Просмычы (былы Савіцкі сельсавет), **Крукоўшчына** — змешаны сасновы і бярозавы лес, у якім, як сцвярджаюць жыхары, сустракаецца да 70 парод дрэў (назва лесу звязана з вёскай Крукі, былым цэнтрам сельсавета Брагінскага раёна, цяпер выселеным з-за вялікай радыяцыі); Сувідаўскі лес (у наваколлях вёскі Двор-Савічы, назва лесу ўказвае на вёску Сувіды ў былым Піркаўскім сельсавеце). У Сувідаўскім лесе заўсёды было шмат ягад: маліны, брусніц, буякоў, суніц, чарніц; тут жа раслі земляныя арэхі. У нашы дні ўсе нагаданыя лясы ўяўляюць сабой запаведнік, доступ у які абмежаваны. І толькі Савічы, некалі багатая, шматлюдная вёска з багатай гісторыяй, пакуль жыве, нібы востраў у мёртвым моры. Адзначым яшчэ цікавую назву даўняга паляўнічага запаведніка (урочышча) **Раўца** — ад слова **роў**, **равец** — «яр», «невялікая рэчка» ці, наадварот, «невялікае ўзвышша», «невысокая гара» (аналагічная «антанімія» значэнняў для дадзенага слова характэрная таксама для балцкіх моў). У гэтым урочышчы жыхары Савіч праводзілі калядныя, купальскія гулянні. Тут растуць вельмі старыя дрэвы.

Тыя, хто яшчэ жыве ў Савічах, захавалі каштоўныя найменні балот — **Дзедаў Круг, Чыстае, Дубовік, Салева, Мох, Мількавік.** Балот, нягледзячы на інтэнсіўную меліярацыю ў савецкі час, тут усё роўна нешмат. У мінулым яны былі непраходнымі, бяздоннымі. У назве балота **Мількавік**, найбольш цікавым з усіх іншых, можна бачыць адлюстраванне геаграфічнага тэрміна **мелег**— «крыніца, якая не замярзае». Гэтае слова вядома ва ўкраінскіх карпацкіх гаворках і ў венгерскай мове (венгер. meleg — «цёплы»). У назве балота **Дубовік** трэба бачыць старажытны індаеўрапейскі корань **дуб** — «глыбокі»; сувязь з драўнінапай пародай тут адсутнічае, хоць у самой назве дрэва дуб маецца той жа корань. З усіх гэтых балот у 30-я гады жыхары Савічаў вылоўлівалі ўюноў, якія ратавалі многіх ад галоднай смерці.

Уяўляюць цікавасць найменні вуліц вёсак Савічы і Двор-Савічы. У вёсцы Савічы тры асноўныя вуліцы, якія ўзаемна перакрыжоўваюцца. Месца гэтага «скрыжавання» называецца **Цэнтрам**, ці **Сялом.** Канец адной вуліцы завецца **Кругам**, паколькі тут існуе копанка, якую ў мясцовай гаворцы абазначаюць з дапамогай слова **круг** (яно, дарэчы, вельмі ўжывальнае на Палессі для наймення лясных азярцоў, асобных балот). Канец іншай вуліцы завецца **Пякарняй** (тут сапраўды размяшчалася пякарня).

У вёсцы Двор-Савічы ёсць месца, якое называюць **урочышчам Пугачова.** У час Вялікай Айчыннай вайны на агародзе жыхара вёскі Пугачова ў лазні былі спалены жанчыны, старыя, дзеці. У брацкай магіле ў Савічах пахаваны 33 мірныя жыхары, расстраляныя і спаленыя фашыстамі, а таксама 11 воінаў Чырвонай Арміі і 8 партызан атрада імя Р. Катоўскага, які дзейнічаў у 1941—1943 гадах у навакольных лясах. Жыхары ўказваюць на востраў Змяіны сярод непраходнага летам балота Мох, дзе якраз і размяшчаўся партызанскі атрад.

Жыхары вёскі Савічы называюць сябе савічанамі: сярод навакольнага насельніцтва яны яшчэ нядаўна былі вядомы пад мянушкай **таўкачы**, якая звязана з тым, што жыхары Савічаў здаўна адрозніваліся працавітасцю, працаздольнасцю: «таўкліся, як таўкачы».

**Аляксандр РОГАЛЕЎ.**

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

Мой родной дядя **ГОЙШИК Виктор Григорьевич** уехал за границу и жил в Англии с женой **Гердой** и сыновьями **Андреем** 1962 г. р. рождения и **Петром** 1960 г. р. по адресу:

4 Blossom Sf.
Cambridge, England.

Связь между моим отцом **ГОЙШИКОМ Зиновием Григорьевичем** и его родным братом **ГОЙШИКОМ Виктором Григорьевичем** поддерживалась письмами. В 1976 году дядя умер, жена продала имущество и переехала с сыновьями в ФРГ. Младший сын Андрей в 1981 году еще учился и жил по адресу:

Neanren Strasse-2,
3000 Hannover,
West Hermany.

А старший сын **Петр** женился в 1981 году. О том, что дядя умер и семья переехала в ФРГ, мы узнали из письма, присланного в 1981 году Иваном Пекарским.

Двоюродных братьев **Андрея** и **Петра ГОЙШИКОВ** разыскивает сестра **ГОЙШИК Нина Зиновьевна,** проживающая по адресу: **Беларусь, г. Барановичи-10, ул. Кирова, д. 73/1, кв. 67.**

**НА СНИМКАХ: Герда ГОЙШИК (в центре), сын Петр (слева) и Андрей (справа); Виктор ГОЙШИК (справа).**






Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 2132.
Падпісана да друку 30.11.1992.